# "Царква", № 2 (57), 2008

Падзеі і сьвяты

## Год сьвятога Апостала Паўла



**Папа Бенядыкт XVI 28 чэрвеня 2008 году ў рымскай базыліцы сьв. Паўла за мурамі афіцыйна абвесьціць ва ўсёй Каталіцкай Царкве “Год сьвятога Паўла”. Нагода для гэтага – 2000-ыя ўгодкі з дня нараджэньня гэтага Апостала.**

На гэты перыяд запланаваны розныя мерапрыемствы – ад рэлігійных і малітоўных да гістарычных і археалагічных. Сьвяткаваньне распачне Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI з урачыстага адкрыцьця Дзьвярэй сьв. Паўла, што знаходзяцца па левы бок ад галоўнага ўваходу ў базыліку сьв. Паўла за мурамі. На заканчэньне Году Апостала народаў – 29 чэрвеня 2009 году – яны будуць зноў урачыста зачыненыя Папам.

На працягу ўсяго году перад базылікай будуць гарэць алiўныя лампады, да якіх вернікі змогуць даліваць аліву, што сымбалізуе малітву да Бога. Падобныя лампады будуць таксама запаленыя ў найбольш важных мясьцінах, зьвязаных з Апосталам Паўлам: у Турцыі – у Тарсе і Эфэсе, а таксама на востраве Мальта.

Ва ўрачыстасьцях адкрыцьця Году сьвятога Апостала Паўла ў Рыме будуць браць удзел рыма-каталіцкія біскупы з Беларусі, а таксама Апостальскі Візітатар БГКЦ Архім. Сяргей (Гаек).

**На фота:** Адна з старажытных выяваў сьвятога Апостала Паўла.

Падзеі і сьвяты

## Грэка-каталікі чакаюць візіт Дзяржаўнага сакратара Ватыкану

**З нагоды запланаванага на 18-22 чэрвеня 2008 году афіцыйнага візіту ў Беларусь Дзяржаўнага сакратара Ватыкану кард. Тарчызіё Бэртонэ Апостальскі Візітатар БГКЦ Архім. Сяргей (Гаек) 7 чэрвеня накіраваў сьвятарам і вернікам Пастырскі заклік да духовай падрыхтоўкі да гэтай важнай падзеі ў грамадзкім і рэлігійным жыцьці.**

У сваім звароце да ўсёй грэка-каталіцкай Супольнасьці Беларусі Апостальскі Візітатар напісаў: “Першапастыр

Паўсюднай (Каталіцкай) Царквы Яго Сьвятасьць Папа Рымскі Бенядыкт XVI пасылае ў нашую Богам любімую Бацькаўшчыну Беларусь свайго найбліжэйшага Супрацоўніка – Дзяржаўнага Сакратара Сьвятой Сталіцы Кардынала Тарчызіё Бэртонэ. Ягоны афіцыйны візіт па запрашэньні ўраду Беларусі адбудзецца 18-22 чэрвеня 2008 г. і будзе складацца з дзьвюх частак: дзяржаўнай і рэлігійнай.

Хочам даверыць Высокадастойнага Госьця ды абедзьве часткі ягонага візіту ў Беларусь малітвам усіх вернікаў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, а таксама нашых сяброў на Радзіме і ў замежжы.

Хочам маліцца, каб гэты візіт прынёс – у дзяржаўным плане – узбагачэньне адносінаў і супрацоўніцтва паміж Рэспублікай Беларусь і Сьвятой Сталіцай, а ў рэлігійным плане – паглыбленьне ў жыцьці вернікаў веры і надзеі, крыніцай якіх ёсьць Слова Божае, ды ўзмацненьне служэньня нашае Царквы дзеля духовага дабра Беларускага народу, як гэта на працягу стагоддзяў рабіла Ўніяцкая Царква на Беларускіх Землях.

Хочам маліцца разам з Валадаркай Беларусі Найсьвятой Багародзіцай Марыяй і ўсімі сьвятымі Беларускай Зямлі, асабліва з Беларускімі новамучанікамі XX стагоддзя.

Усіх вернікаў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы заклікаем да асаблівай духовай падрыхтоўкі да візіту ў Беларусь Кардынала Тарчызіё Бэртонэ, Дзяржсакратара Яго Сьвятасьці Папы Бенядыкта XVI. У парафіях, парафіяльных супольнасьцях, сем’ях ды індывідуальна маліцеся словамі Акафісту Найсьвятой Багародзіцы, асабліва на працягу 9 дзён (навэна) – пачынаючы ад бліжэйшага аўторка 10 чэрвеня".

Вернікі грэка-каталіцкіх парафіяў Беларусі разам са сваімі душпастырамі возьмуць удзел у малітоўных сустрэчах з Высокім Прадстаўніком Сьвятога Айца разам з братамі католікамі лацінскага абраду ў Пінску, Горадні і Менску.

Асабліва важным для нашае Царквы будзе дзень 19 чэрвеня 2008 году, калі ў Менску адбудзецца сустрэча Яго Эмінэнцыі Высокадастойнага Ўладыкі Кардынала Тарчызіё з духавенствам і прадстаўнікамі грэка-каталіцкіх парафіяў Беларусі. Як адзначае ў сваім Пастырскім лісьце Архімандрыт Сяргей, "гэта будзе момант глыбокай духовай Сулучнасьці (Communio) Паўнаты нашае Царквы з Пасланцам Яго Сьвятасьці Бенядыкта XVI". "Таму хочам да гэтае сустрэчы падрыхтавацца ўсе, уся Паўната нашае Каталіцкае Царквы візантыйскага абраду, тыя, хто будзе прысутнічаць на сустрэчы, і тыя, хто будзе ў ёй удзельнічаць толькі духова. Хай на дарозе гэтае духовае падрыхтоўкі спадарожнічае нам Найсьвятая Багародзіца ды шчодра блаславіць нас Хрыстос-Чалавекалюбец»,– заклікае Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі

**Ахімандрыт Сяргей Гаек.**

**На фота:** Дзяржсакратар Ватыкану кардынал Тарчызіё Бэртонэ.

Падзеі і сьвяты

## У беларускіх грэка-католікаў новы сьвятар

**20 красавіка 2008 году адбылася хіратонія новага беларускага грэка-каталіцкага сьвятара.**



Ва Ўкраіне ў Вербную нядзелю паводле юльянскага календара, у царкве Раства Хрыстова г.Івана-Франкоўска, біскуп-эмерыт Сафрон Мудры OSBM высьвяціў на сьвятара дыякана Васіля Ягорава з Магілёва. Разам з айцом Васілём на ўрачыстай Боскай Літургіі ў Івана-Франкоўску маліліся і дэлегаты нашай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы – а. Алесь Шыбека з Віцебску і семінарыст Віталь Быстроў, які заканчвае там сваю навуку і духоўную фармацыю.

Айцец Васіль Ягораў нарадзіўся ў Магілёве 9 лістапада 1972 году. У 1996 скончыў аўтамеханічны факультэт Магілёўскага машынабудаўнічага інстытуту, пасьля якога працаваў канструктарам у канструктарскім бюро. У 2001 годзе, ідучы за поклікам свайго сэрца, паступіў у Івана-Франкоўскую Тэалагічную акадэмію, якую выдатна скончыў у 2006 годзе. Абараніў магістарскую працу па тэме "Фармаваньне хрысталагічнага дагмату ў барацьбе з ерасямі першых стагоддзяў хрысьціянства".

28 жніўня 2007 году ў Сьвята-Ўсьпенскай Уніўскай Лаўры айцоў студытаў атрымаў дыяканскія сьвячаньні з рук біскупа Сафрона Мудрага.
Пасьля Боскай Літургіі новасьвятар БГКЦ шчыра падзякаваў украінскаму Ўладыку Сафрону за чуйную духоўную апеку, якую ён удзяляў і ўдзяляе на працягу многіх гадоў нашым беларускім семінарыстам і сьвятарам.

**а. Алесь Шыбека,**
г.Віцебск

**На фота:** 20.04.2008, Івана-Франкоўск (Украіна).
Хіратонія новага сьвятара Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы
а. Васіля Ягорава з Магілёва.









**На фота:** 20.04.2008, Івана-Франкоўск (Украіна).
У царкве Раства Хрыстова біскуп-эмерыт Сафрон Мудры высьвяціў на сьвятара дыякана БГКЦ Васіля ЯГОРАВА з Магілёва. "Многія леты!"

Падзеі і сьвяты

## Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч атрымае паліюм

**Паводле рымскай традыцыі, ва ўрачыстасьць сьвятых Першавярхоўных Апосталаў Пятра і Паўла – 29 чэрвеня – Сьвяты Айцец уручае новым мітрапалітам паліюм – знак мітрапалічай годнасьці. Паліюм нагадвае сваёй формай візантыйскі біскупскі амафор.**

29 чэрвеня 2008 году Яго Сьвятасьць Папа Бенядыкт XVI урачыста ўручыць паліюм Мітрапаліту Менска-Магілёўскаму Высокадастойнаму Ўладыку Тадэвушу Кандрусевічу. У гэтай урачыстасьці будуць браць удзел каталіцкія ярархі Беларусі, сярод якіх будзе і Архімандрыт Сяргей (Гаек), Апостальскі Візітатар БГКЦ.

З гэтае нагоды ў Рым прыбудзе таксама Пілігрымка вернікаў Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі.

Сардэчна віншуем Высокадастойнага Мітрапаліта Тадэвуша з гэтай радаснай падзеяй. "На многія леты!"

Навіны хрысьціянскага сьвету

## Сустрэча грэка-каталіцкіх ярархаў у санктуарыюме ў Марыяпоўч



**20-22 траўня 2008 г. у грэка-каталіцкім Сантуарыюме Багародзіцы ў г.Марыяпоўч (усходняя Вугоршчына) прайшла чарговая, штогадовая Сустрэча Ўсходніх Каталіцкіх Ярархаў Еўропы (на лацінскай мове яна называецца Conventus Hierarcharum Orientalium Catholicorum Europae, адкуль і скарочаная назва форуму — CHOCE).**

Удзельнічалі ў ёй ярархі 10 грэка-каталіцкіх Цэркваў “свайго права” (або іх прадстаўнікі). Не змаглі прыбыць біскупы з Македоніі, Харватыі, Грэцыі, Сіцыліі, Францыі, Германіі ды Вялікабрытаніі. Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву прадстаўляў Апостальскі Візітатар Архім. Сяргей (Гаек).

Быў гэта сапраўды высокі прадстаўнічы форум, у якім удзельнічалі 3 архібіскупы, 20 біскупаў, 6 архімандрытаў. Прыбылі яны на запрашэньне Апостальскага Адміністратара Вянгерскай Грэка-Каталіцкай Царквы (эмерытаванага біскупа япархіі Гайдудораг ды Апостальскага Экзархату Мішкальц) Уладыкі Сіларда (Канстанціна) Кэрэстэша. У сустрэчы ўдзельнічаў таксама новапрызначаны біскуп ВГКЦ Уладыка Філіп Кочыш.



Сустрэчы CHOCE – гэта нефармальная форма, у якой ярархі ўдзельнічаюць дабраахвотна. Духоўным кіраўніком гэтых сустрэчаў зьяўляецца Першаярарх Украінскай Грэка-

Каталіцкай Царквы Яго Блаславенства Любамір (Гузар). Па стану здароўя ён ня мог удзельнічаць у чарговым форуме ўсходніх ярархаў у Марыяпоўч, таму роля мадэратараў выпала мясцоваму вугорскаму ярарху Ўладыку Канстанціну (Кэрэстэшу) ды мітрапалітам Яну (Мартыняку) з польскага Перамышля і Яну (Баб’яку) з славацкага Прэшава.

Уся праца падчас сустрэчы была сканцэнтравана на багаслоўска-пастаральных праблемах сакраманту споведзі. Выклады на гэтую тэму рабілі рэктар Папскай Грэцкай калегіі архімандрыт праф. Манэль Нін, рэктар Папскага Ўсходняга інстытуту ў Рыме ераманах праф. Кіріла Васіль ды два прафесары Багаслоўскага інстытуту сьв. Атанасія ў г.Ныірэдзьгаза (Вугоршчына).


Вялікая вартасьць форуму ў Марыяпоўч у тым, што ён даў чарговую магчымасьць свабодна, нефармальна сустрэцца ярархам амаль усіх грэка-каталіцкіх Цэркваў Еўропы і абмеркаваць надзённыя пытаньні. Вечарам кожнага дня ярархі служылі Боскую Літургію ў прысутнасьці шматлікіх вернікаў. Багаслужба адбывалася па чарзе ў трох мовах і трох месцах: у марыйным санктуарюме ў Марыяпоўч яна правілася па-ўкраінску, у Ныірэдзьгазе (у прысутнасьці вянгерскага рыма-каталіцкага кардынала Пэтэра Эрдзё, старшыні CCEE – Рады Біскупскіх Канферэнцыяў Еўропы, які прамовіў казаньне) – па-вугорску, а ў г.Гайдудораг літургія была на царкоўнаславянскай мове. Сустрэча CHOCE-2008 у Марыяпоўч дала ўдзельнікам каштоўны духовы вопыт еднасьці ды братэрства.

**На фота:**

1. Урачыстая працэсія ўсходне-каталіцкіх ярархаў у санктуарыюме Маці Божай у Марыяпоўч (Венгрыя).

2. Марыяпоўч (Венгрыя), 20.05.2008. Малітва ўсходне-каталіцкіх ярархаў перад пачаткам сустрэчы.

3. Санктуарыюм у Марыяпоўч (Венгрыя). Удзельнікі Сустрэчы ярархаў Усходніх Каталіцкіх Цэркваў Еўропы ля цудатворнай іконы Маці Божай.

4. Грэка-каталіцкія ярархі падчас багаслоўска-пастаральных выкладаў.

Навіны хрысьціянскага сьвету

## Новыя біскупы Ўсходніх Каталіцкіх Цэркваў у Еўропе

**На працягу мінулых месяцаў 2008 году грэка-каталіцкія Цэрквы ва Ўкраіне, у Грэцыі ды Вугоршчыне атрымалі новых біскупаў. Ніжэй даем кароткую інфармацыю пра гэтыя радасныя таксама і для беларускіх грэка-католікаў падзеі царкоўнага жыцьця.**

**УКРАІНА**


15 студзеня 2008 году Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI благаславіў рашэньне Сіноду Біскупаў УГКЦ пра заснаваньне ў Луцку новага экзархату (які мае статус архібіскупскага) і пра прызначэньне а. Язафата Алега Гавэры яго экзархам (у мінулым нумары “Царквы” мы пісалі пра гэта). У склад новага экзархату ўваходзяць Валынская і Ровенская вобласьці. Рэзідэнцыя новага экзарха знаходзіцца ў Луцку.
Айцец Язафат Алег Гавэра нарадзіўся 12 верасьня 1967 году ў Івана-Франкоўску. Пасьля заканчэньня сярэдняй школы вучыўся ў падпольнай духоўнай семінарыі. 30 траўня 1990 году ён быў рукапакладзены на сьвятара і прызначаны парахам парафіі сьвятых Уладзіміра і Вольгі ў м. Вялікая Беразавіца. З 1996 па 1999 гг. навучаўся ў Люблінскім каталіцкім універсітэце. Пасьля гэтага працаваў віцэ-рэктарам Вышэйшай духоўнай семінарыі Тарнопальскай япархіі УГКЦ. На працягу 2004-2007 гг. а. Язафат навучаўся ў Папскім Усходнім інстытуце ў Рыме, дзе абараніў ліцэнцыят па пастаральнай тэалогіі. Да моманту новага прызначэньня ён выконваў абавязкі рэктара Духоўнай семінарыі імя Ёсіфа Сьліпога ў Тарнопалі.

7 красавіка 2008 году, у сьвята Дабравешчаньня па юльянскім календары, у Тарнопальскім катэдральным саборы адбылася хіратонія новага грэка-каталіцкага біскупа. Для гэтага ў Тарнопаль прыехалі Першаярарх УГКЦ Яго Блаславенства Любамір, біскупы Грэка-Каталіцкай Царквы з Украіны і замежжа. На хіратоніі прысутнічаў і Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек.

Чын біскупскай хіратоніі ўзначаліў Яго Блаславенства Любамір, з якім саслужылі правячы біскуп Тарнопальска-Збораўскі Ўладыка Васіль Семянюк і Ўладыка Павел Хамніцкі, ардынарый Стэмфардзкай япархіі ў ЗША.

У суботу, 12 красавіка 2008 году, у луцкім храме Дабравешчаньня Найсьвяцейшай Багародзіцы, які цяпер зьяўляецца катэдральным саборам, падчас Боскай Літургіі адбылася інтранізацыя Ўладыкі Язафата (Гавэры). З гэтай нагоды ў Луцк прыехалі Яго Блаславенства Вярхоўны Архібіскуп Кіеўска-Галіцкі Любамір, архібіскуп Львоўскі Ігар (Возьняк), біскупы УГКЦ, сьвятары і сьвецкія вернікі. У літургіі прыняў удзел ардынарый Луцкай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкай Царквы ва Ўкраіне, а таксама прысутнічаў Уладыка Міхаіл, япіскап Луцкі і Валынскі Ўкраінскай Праваслаўнай Царквы Кіеўскага Патрыярхату. Ад Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы на інтранізацыі прысутнічаў ераманах Лявонцій Тумоўскі, які прачытаў прысутным віншавальны ліст ад Апостальскага Візітатара БГКЦ архімандрыта Сяргея Гаека.


У сваім лісьце на імя Высокадастойнага Ўладыкі Язафата (Гавэры) ад імя духавенства і вернікаў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы ён выказаў радасьць з нагоды прызначэньня яго на пасад Экзарха Валынскага і прывітаў з пачаткам пастырскага служэньня на гэтай, блізкай таксама і для нас, беларусаў, зямлі. “Ваш Экзархат знаходзіцца на мяжы з Беларусьсю, і мы спадзяемся, што гэтая тэрытарыяльная блізкасьць будзе таксама нагодаю да супрацоўніцтва на карысьць еднасьці, пра якую рупліва дбаў Слуга Божы Мітрапаліт Андрэй

Шаптыцкі”,– адзначае ў лісьце Апостальскі Візітатар беларускіх грэка-католікаў.

Архімандрыт Сяргей таксама зьвяртае ўвагу на духовыя повязі ўкраінскіх і беларускіх грэка-католікаў у XX ст., калі Мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі, дбаючы пра адраджэньне грэка-каталіцтва на Ўсходзе, у 1915 годзе прызначыў для працы на Валыні біскупа Луцкага Ёсіфа (Боцяна), які пэўны час апекаваўся таксама і грэка-католікамі ў Беларусі. Пазьней Слуга Божы Андрэй гэтаксама актыўна дапамагаў Апостальскаму Візітатару для Валыні, Падляшша і Палесься Ўладыку Мікалаю (Чарнецкаму), а ўвосень 1939 году, стварыўшы Беларускі грэка-каталіцкі экзархат, даручыў яму выконваць абавязкі Экзарха Беларусі да 1940 году, да часу, калі гэтае служэньня прыняў ад яго а. Антон Неманцэвіч.

“Цэнтральна-Заходні Протапрасьвітарат (дэканат) Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы сёньня носіць імя Блаславёнага Мікалая Чарнецкага,– піша Візітатар БГКЦ.— Няхай прыклад Блаславёнага сьвятамучаніка будзе для нас добрым сьведчаньнем ахвярнасьці і адданага служэньня верным”.

Напрыканцы свайго віншавальнага ліста Архімандрыт Сяргей пажадаў новапрызначанаму Валынскаму Экзарху Ўладыку Язафату Божага блаславеньня ў працы на душпастырскай ніве: “Няхай Міласэрны і Чалавекалюбны Госпад зьберажэ Вас для сьвятых сваіх Цэркваў, у супакоі, цэласьці, добрай славе, здароўі і даўгалецьці, каб маглі верна навучаць словам Яго праўды. А ўсе сьвятыя Ўкраінскай зямлі няхай суправаджаюць Вас сваімі малітвамі і апекаю ў Вашым служэньні”.

(Арыгінальны ўкраінскі тэкст віншавальнага ліста Валынскаму экзарху можна прачытаць тут)

**ГРЭЦЫЯ**

23 красавіка 2008 году Папа Бенядыкт XVI прыняў просьбу Біскупа Анаргіраса Прынтэсіса аб звальненьні яго па стане здароўя з пасады апостальскага экзарха для католікаў візантыйскага абраду ў Грэцыі.

Адначасова Сьвяты Айцец паклікаў да біскупскага сану а. Дымітрыяса Салахаса ды прызначыў яго новым Апостальскім Экзархам Эладзкай Грэка-Каталіцкай Царквы.

Новы апостальскі экзарх нарадзіўся ў 1939 годзе ў Афінах. Вывучаў філасофію ў Папскім унівэрсітэце “Урбаніяна” ў Рыме ды тэалогію ў Ерусаліме, дзе ў 1964 годзе быў рукапакладзены на сьвятара.

Акрамя гэтага Ўладыка Дымітрыяс мае юрыдычную адукацыю, якую атрымаў на юрыдычным факультэце Афінскага ўнівэрсітэту. Ён шмат гадоў выкладаў усходняе кананічнае права ў Экуменічным інстытуце ў Бары, у папскіх навучальных установах Рыма і ў Каталіцкім інстытуце ў Парыжы. Таксама ён уваходзіць у Міжнародную камісію па каталіцка-праваслаўным дыялогу ад моманту яе стварэньня. Дзякуючы шматгадовым кантактам і сяброўству з архім. Сяргеем (Гаекам) новы зьверхнік Эладзкай Грэка-Каталіцкай Царквы вельмі добра ведае жыцьцё БГКЦ.

Апостальскі Экзархат Эладзкай Грэка-Каталіцкай Царквы налічвае каля 3000 вернікаў у трох парафіях, ёсьць таксама пэўная колькасьць вернікаў, якія жывуць па-за структурамі парафіяў. У Экзархаце ЭГКЦ служыць 10 сьвятароў.

Акрамя таго парафіі Экзархату гасьцінна адкрытыя на патрэбы ўкраінскіх грэка-каталікоў, якіх сёньня тысячы працуюць у Грэцыі, а таксама і для вернікаў Халдэйскай Каталіцкай Царквы.

**ВУГОРШЧЫНА**

2 траўня 2008 году Вянгерская Грэка-Каталіцкая Царква атрымала свайго новага Пастыра. Папа Бенядыкт XVI прызначыў Біскупам япархіі Гайдудораг (Hajdudorog) ды Апостальскім Адміністратарам “ad nutum Sanctae Sedis” Апостальскага Экзархату ў Мішкальцы (Miskolc) ігумена грэка-каталіцкай Абіцелі Перамяненьня Гасподняга ў м. Дамац – ераманаха Філіпа Кочыша.

Новапрызначаны біскуп нарадзіўся 13 студзеня 1963 году ў горадзе Сэгэд у япархіі Гайдудораг. Закончыў епархіяльную семінарыю у г. Нырэдзьгаза і быў рукапакладзены на сьвятара 2 жніўня 1989 году. Пасьля вышэйшых студыяў у Рыме нёс душпастырскае служэньне ў Мішкальцкім Экзархаце.

Пасьля манаскай фармацыі (у 1995-1999 гг.) ва ўсходне-каталіцкім манастыры бенядыктынцаў у Шэўтоні ў Бельгіі, з блаславеньня біскупа Гайдудоражскага, арганізаваў манастырскую абіцель у мясцовасьці Дамац ва ўсходняй Вугоршчыне ды быў прызначаны яе ігуменам.

Уладыка Філіп уступае на пасад Архіпастыра Вянгерскай Грэка-Каталіцкай Царквы (ВГКЦ) пасьля шматгадовага служэньня (1988-2007) біскупа Сіларда Кэрэстэша, які ў 2007 годзе адышоў на пенсію.

Сёньня Грэка-Каталіцкая Царква ў Вугоршчыне (у Гайдудоражскай япархіі ды экзархаце Мішкальц) налічвае амаль 300 тысячаў вернікаў, існуе 180 парафіяў, якія абслугоўваюць 270 сьвятароў.

**На фота:**

1. Тарнопаль (Украіна), 07.04.2008. Апостальскі Візітатар БГКЦ архім. Сяргей Гаек вітае Валынскага Экзарха Ўладыку Язафата Гавэру пасьля яго хіратоніі.

2. Луцк (Украіна), 12.04.2008. На ўрачыстасьці інтранізацыі Валынскага Эказарха УГКЦ Уладыку Язафата Гавэру вітае Дэкан Ўсходняга протапрасьвітарату БГКЦ ерам. Лявонці Тумоўскі.

Навіны хрысьціянскага сьвету

## УГКЦ разглядае накірункі евангелізацыйнага і катэхетычнага служэньня для дарослых

**16-17 чэрвеня 2008 году ў Львове, у памяшканьні Львоўскай духоўнай семінарыі, праходзіла міжнародная канферэнцыя "Евангелізацыя і катэхізацыя дарослых у УГКЦ". Мэта канферэнцыі – раскрыць сутнасьць, заданьне і метады евангелізацыі і катэхізацыі дарослых, а таксама выпрацаваць персьпектывы і накірункі гэтага служэньня для дарослых з улікам цяперашняга стану і выклікаў часу.**

За два дні працы канферэнцыі ўдзельнікі пазнаёміліся з 6 дакладамі, а затым у малых групах на іх аснове выпрацавалі адпаведныя рэзалюцыі. Даклады закраналі наступныя тэмы: "Паняцьце евангелізацыі", "Евангелізацыя ва Ўкраіне" і "Евангелізацыя вернікаў УГКЦ па-замежамі краіны", а таксама ў розных рэгіёнах краіны. У другі дзень працы канферэнцыі былі разгледжаны тэмы: "Асаблівасьці катэхезы для дарослых", "Літургійная катэхеза для дарослых" і "Біблійны апасталат як форма катэхізацыі дарослых". Затым гэтыя тэмы зноў дыскутаваліся ў групах, дзе таксама закранаіся пытаньні пра выклікі і персьпектывы катэхізацыі дарослых у парафіі, сям'і, рухах, арганізацыях і супольнасьцях.

**Паводле Дэпартаменту інфармацыі УГКЦ**

Навіны хрысьціянскага сьвету

## Студыйскае манаства набывае іншае вымярэньне

**Сёлета Студыйскае манаства сьвяткуе 110-годдзе свайго аднаўленьня. З гэтай нагоды Вярхоўны Архібіскуп Кіева-Галіцкай мітраполіі надаў Сьвята-Ўсьпенскай Уніўскай Лаўры статус стаўрапігіі. Гэта дазволіла акрэсьліць дагэтуль ня вызначаны юрыдычны статус Лаўры, якая раней традыцыйна была асяродкам Галіцкіх мітрапалітаў, а пасьля рэарганізацыі стала належаць да Стрыйскай япархіі УГКЦ. Цяпер жа Сьвята-Ўсьпенская Уніўская Лаўра падпарадкоўваецца непасрэдна Зьверхніку УГКЦ.**



З гэтай нагоды ў Львове 3 траўня 2008 году адбылася канферэнцыя, прысьвечаная памяці блаславёнага мучаніка Клімента Шаптыцкага, які разам са сваім братам Мітрапалітам Андрэем Шаптыцкім спрычыніўся да аднаўленьня студыйскага манаства ва Ўкраіне.

Уступнае слова на гэтай канферэнцыі меў ігумен Уніўскай Лаўры ераманах Бенядыкт Алексійчук (у 1990-ыя ён працаваў у Беларусі), які ў сваім слове падаў кароткія біяграфічныя зьвесткі пра блаславёнага мучаніка Клімента ды коратка ўказаў на ролю і месца Архімандрыта Клімента Шаптыцкага ў жыцьці Грэка-Каталіцкай Царквы. Дарэчы, а. Клімент Шаптыцкі ў міжваенны час бываў і ў Беларусі – быў удзельнікам унійных канферэнцыяў у Пінску, наведваў Усходнюю місію айцоў езуітаў у Альбярціне пад Слонімам, маліўся ў Жыровічах і Быцені.

Айцец д-р Барыс Гудзяк, рэктар Украінскага Каталіцкага Ўніверсітэту, у сваёй прамове “Блаславёны мучанік Клімент як узор сьвятасьці” зазначыў між іншым, што “наяўнасьць сьвятых, якія жылі ў наш час, сьведкамі жыцьця якіх былі мы самі альбо нашыя бацькі, выглядае дастаткова нязвыкла, але, з іншага боку, дае нам магчымасьць паверыць, што сьвятасьць магчымая таксама і ў наш час”.

Былы міністар замежных спраў Польшчы Адам Даніэль Ротфельд, якога падчас вайны, як і іншых габрэйскіх хлопчыкаў, грэка-каталіцкія манахі-студыты ўратавалі ад сьмерці, падзяліўся сваімі ўспамінамі з дзяцінства пра знаходжаньне ў Лаўры і сваё першае знаёмства з Архімандрытам Кліментам Шаптыцкім.

Сямейнымі згадкамі пра асобу Клімента Шаптыцкага падзяліўся з прысутнымі праўнук Лявона Шаптыцкага, д-р Андрэй Шаптыцкі, які таксама прызнаўся, што студыты сёньня зьяўляюцца своеасаблівай повязьзю іх сям’і з Украінай у той час, калі нікога з нашчадкаў роду Шаптыцкіх ва Ўкраіне ўжо не засталося.

Прадстаўніца габрэйскага фонду “Хасэт Ар’е“ спн. Вольга Фадзеева распавяла пра подзьвіг Шаптыцкіх, якія падчас вайны ратавалі габрэйскіх дзяцей ад немцаў. У гонар Архімандрыта Клімента ў Інстытуце Яд Вашэм у Ізраілі ўжо пасаджана дрэва на алеі Праведнікаў сьвету.

Працягам сьвяткаваньняў стала Архірэйская Боская Літургія, якую ўзначаліў Вярхоўны Архібіскуп УГКЦ кардынал Любамір Гузар, падчас якой быў зачытаны дэкрэт пра наданьне Сьвята-Ўсьпенскай Уніўскай Лаўры статусу стаўрапігіі. Ад Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы на гэтых урачыстасьцях прысутнічала манахіня-студытка Вікторыя (Чэкан) з Менску.

**с. Вікторыя (Чэкан)**

**На фота:** Сьвята-Ўсьпенская Уніўская Лаўра ва Ўкраіне.

Навіны хрысьціянскага сьвету

## Праваслаўны ярарх прычасьціўся
## на грэка-каталіцкай багаслужбе?

Згодна з паведамленьнямі СМІ, 25 траўня 2008 году падчас літургіі ў грэка-каталіцкім храме г.Цімішоара (Румынія), на якой прысутнічаў Апостальскі нунцый у Румыніі Францыск Хаўер Лазана, адбылося прычасьце мітрапаліта Банацкага Мікалая (Румынская Праваслаўная Царква).

З гэтай нагоды 6 чэрвеня 2008 году старшыня Аддзелу зьнешніх царкоўных сувязяў Маскоўскага Патрыярхату мітрапаліт Смаленскі і Калінінградзкі Кірыла накіраваў афіцыйны ліст на імя япіскапа Кымпінскага Кіпрыяна, вікарыя Патрыярха Румынскага, старшыню Сектара зьнешніх царкоўных сувязяў Румынскага Патрыярхату, з просьбай патлумачыць, ці сапраўды меў месца факт сулучнасьці ў сьв. Тайнах высокага ярарха Румынскай Праваслаўнай Царквы.

Навіны хрысьціянскага сьвету

## Апублікаваны працоўны дакумент Сіноду Біскупаў пра Слова Божае

**На васьмі мовах 12 чэрвеня 2008 году быў апублікаваны “Instrumentum laboris” – працоўны дакумент на XII Звычайны сход Сіноду Біскупаў, паводле якога будзе пабудавана праца Сіноду з 5 па 26 кастрычніка 2008 г., які будзе праходзіць пад тытулам “Слова Божае ў жыцьці і місіі Царквы”.**

Дакумент распрацоўвае саборную дагматычную канстытуцыю пра Аб’яўленьне Божае “Dei Verbum”, беручы за аснову вопыт, тэалагічную рэфлексію і душпастырскую працу Царквы апошняй чвэрці XX стагоддзя і пачатку XXI стагоддзя. Першая частка мае назву “Таямніца Бога, Які да нас прамаўляе”. У ёй гаворыцца пра ідэнтычнасьць Слова Божага паводле веры Царквы, пра інтэрпрэтацыю Сьятога Пісаньня і пра паставу яго слухачоў. Назва наступнай часткі дакументу – “Слова Божае ў жыцьці Царквы”. На яе старонках указваецца роля Слова Божага ў такіх сферах служэньня Царквы як прапаведніцтва, літургія, дабрачынная праца, тэалогія і штодзённае жыцьцё вернікаў. Апошняя, трэцяя частка, прысьвечана разважаньню над словам Божым у місіі Царквы: евангелізацыя і катэхеза, месца слова Божага ў духоўнай фармацыі Божага народу, яго значэньне ў экуменічным, хрысьціянска-габрэйскім і міжрэлігійным дыялогу.

**Паводле Catholic.by**

Шлях да Бога

«Я пераходзіў Ярдан і ўваходзіў у Ерусалім»

**28 траўня споўнілася 90 гадоў найстарэйшаму беларускаму сьвятару ў замежжы айцу Кастусю Маскаліку. Пакручастыя лёсы ваеннага пакаленьня кідалі айца Кастуся па шырокім сьвеце, але ня здолелі пахіснуць ягонае глыбіннае беларускасьці.**



Дзяцінства й юнацтва было закалыханае нясьпешным заходнебеларускім мястэчкам Гародзеем (сёньня ў Нясьвіжскім раёне), так няўдала перазваным Саветамі на Гарадзею, і гэтая тутэйшая нясьпешнасьць сталася адной з самых пазнавальных рысаў айца Кастуся. Ён так і не навучыўся адпавядаць шалёным вібрацыям сучаснага сьвету, назаўсёды застаўшыся там, у сваім усё больш і больш далёкім дзяцінстве.

Калі вайна захлынула Гародзей, Кастусь быў прызваны ў Чырвоную Армію, з якой апынуўся на ўсходзе СССР, а потым запісаўся ў войска генерала Андэрса, бо Чырвонае войска аніяк не адпавядала ягоным уяўленьням пра свой зямны шлях.

Прайшоў з войскам увесь Блізкі Ўсход, на ўсё жыцьцё запомніўшы даты й дэталі тога падарожжа, якое ён, пабожны хлопец, патрапіў ператварыць у пілігрымку на Сьвятую Зямлю.

Потым, ужо старым і нямоглым сьвятаром Беларускае Каталіцкае Місіі ў Лондане, айцец Кастусь за якім-небудзь сьняданкам мог раптам сказаць: “Сёньня 50 гадоў, як я перайшоў Ярдан”, або, скажам, як я ўвайшоў у Ерусалім. І ганарыўся, што за ўсё вайну не зрабіў аніводнага стрэлу! (ён, здаецца, служыў пры кухні, і таму яму гэта ўдалося). А таксама захаваў адзін новенькі камплект вайсковае бялізны.

Па вайне ў рымскім езуіцкім калегіюме “Rusicum” атрымаў адукацыю ды быў высьвячаны на сьвятара. Працаваў у розныя гады ў розных краінах – то чытаў па-беларуску навіны на ватыканскім радыё, то ўзначальваў беларускую каталіцкую місію ў Парыжы (пакуль беларускі сьвятар-падзьвіжнік Леў Гарошка праходзіў марыянскі навіцыят у Лондане).

Але найбольш часу, бадай, пражыў у Лондане. І заўсёды-заўсёды ў думках жыў дома, у ідэальным Гародзеі свайго жыцьця, сталіцы свае душы. У любы момант ён мог пачаць аповяд пра тамтэйшых людзей, часам згадваючы, хто ў што быў апрануты пры нейкай нагодзе. Да драбніцаў апісваў, як на якое сьвята ўпрыгожвалі царкву, што рабілі, што гатавалі ды сьпявалі па сьвятах у хаце, як хавалі старых, а як маладых, а як тапельцаў – і гэтым расповедам не было канца.

І ўсё гэта – на пекнай, цёплай і жывой беларускай мове, на якую аніяк не наклаліся іншыя жыцьцёвыя лінгвістычныя досьведы. І бульба нязьменна звалася “картопляй”, і прозьвішчы былі “прозьвіскамі”, і сакавітыя выразы ня трацілі свайго водару.

Вось ужо колькі год айцец Кастусь жыве ў доме для старых і так глыбока пагрузіўся ў свае ўспаміны, што ўсё цяжэй пазнае твары ды імёны тых, каго ўведаў у апошнія пару дзесяцігоддзяў. Але спытайцеся пра даваенную Беларусь – і жывая рака ўспамінаў закрынічыць ізноў. Ён навечна застаўся часьцінкаю Беларусі, беларускае памяці, якой так бракуе нам цяпер.
Барані цябе Бог, айцец Кастусь.

**Ірына Дубянецкая**

Паводле «Нашай нівы», www.nn.by

**На фота:** 90-гадовы беларускі грэка-каталіцкі сьвятар а. Кастусь Маскалік.

Шлях да Бога

## Дзень памяці сьвятара і паэта Аляксандра Астрамовіча

**31 траўня 2008 году ў касьцёле Маці Божай Ружанцовай і сьв. Дамініка ў Ракаве на Валожыншчыне адбыўся Дзень памяці, прысьвечаны 130-годдзю з дня нараджэньня сьвятара і паэта Аляксандра Астрамовіча (Андрэя Зязюлі).**

Ксёндз Аляксандр Астрамовіч у 1911 г. працаваў у ракаўскай парафіі. Моладзь і старэйшыя парафіяне падрыхтавалі прамовы і рэфераты, прысьвечаныя біяграфіі і грамадзка-асьветніцкай дзейнасьці беларускага сьвятара і паэта Андрэя Зязюлі, дзеці чыталі яго вершы.
Падчас сьвятой Імшы ў інтэнцыі новых і сьвятых пакліканьняў да сьвятарства і манаскага жыцьця 7 хлопчыкаў з ракаўскай парафіі, якія прайшлі адпаведную падрыхтоўку да службы пры алтары, атрымалі літургічнае адзеньне – комжы – і сталі міністрантамі.

Вечарам, на заканчэньне ўрачыстасьці, на плошчы перад касьцёлам адбыўся канцэрт, арганізаваны каталіцкай моладдзю, сумесна з моладдзю царквы евангельскіх хрысьціянаў. На працягу дзьвюх гадзінаў на ўвесь Ракаў гучалі сьпевы, якімі вернікі праслаўлялі веліч Госпада Бога. На канцэрце прысутнічалі ня толькі моладзь, але і старэйшыя жыхары Ракава, а таксама госьці з Польшчы і Аўстраліі.

1 чэрвеня 2008 г. дзевяць маленькіх парафіянаў пасьля сакрамэнтальнай споведзі прынялі ў свае сэрцы ў першы раз сьвятую Камунію і разам з усёй парафіяй маліліся аб Божым бласлаўленьні для сваіх сем’яў і аб сьвятасьці мястэчка Ракаў і ўсёй ракаўскай парафіі.

**Паводле Catholic.by**

Сьвятло Ўсходу

**Айцец д-р Георгі Авакумаў (Мюнхен)**



Сьвятар Георгі Авакумаў - доктар навук, прафесар.
Жыве ў Нямеччыне, у Мюнхене. Служыць у расейскай грэка-каталіцкай парафіі сьв. Мікалая Мірлікійскага і блаславёнага Леаніда (Фёдарава). Зьяўляецца аўтарам шэрагу кніг гісторыка-багаслоўскай тэматыкі.

## Гістарычны досьвед усходніх каталіцкіх Цэркваў – выклік сучаснай айкумене?

## Спроба разважаньняў пра экуменічнае вымярэньне багаслоўскай спадчыны грэка-каталікоў[*]

У сучасным міжнародным экуменічным дыскурсе як самое паняцьце “царкоўная унія”[1], так і гістарычныя уніі паміж лацінскаю Царквою і Цэрквамі візантыйскай і славянскай традыцыяў,– напрыклад, уніі Фларэнцкая або Берасьцейская,– маюць нядобрую славу. Праблематыка царкоўных уніяў эпохі Сярэднявечча і Раньняга Новага часу і эклезіялогіі “ўніяцкіх”, усходніх каталіцкіх, або грэка-каталіцкіх Цэркваў – калі толькі гэтая праблематыка наогул уздымаецца ў экуменічным дыскурсе – часьцей за ўсё абмяркоўваецца пад рубрыкай “уніятызму”, гэта значыць выключна грэблівага паняцьця, якое сьвядома супрацьпастаўляецца “экуменізму”. На адмоўным полюсе знаходзіцца ў такой сістэме каардынатаў “унія” – заганны, памылковы спосаб пошукаў еднасьці, што ўзьнік нібыта на

грунце ня столькі рэлігійнага, колькі чыста палітычнага інтарэсу, а акрамя таго празеліцкіх і ўніфікатарскіх намераў аднога боку адносна іншага. Насупраць, на станоўчым полюсе, знаходзіцца экуменічны рух XX стагоддзя, які ўпершыню паказаў, якім павінен быць сапраўдны шлях да хрысьціянскай еднасьці, пазбаўлены ўсялякіх карысьлівых і палітычных намераў і напоўнены выключна рэлігійным натхненьнем. Асабліва выразна гэтая канцэпцыя сфармуляваная ў вядомым Баламандзкім дакуменце 1993 году, які мае вымоўны загаловак: "Уніятызм – састарэлы метад дасягненьня еднасьці – і наш пошук поўні сулучнасьці". Паводле такіх поглядаў, багаслоўе уній і гістарычны досьвед усходніх Каталіцкіх Цэркваў маюць для сучаснага экуменічнага багаслоўя нібыта выключна адмоўнае значэньне: яны дэманструюць, "як ня трэба" шукаць хрысьціянскай еднасьці.

Насуперак гэтаму даволі распаўсюджанаму сёньня ў прафесійных міжнародных экуменічных колах погляду хачу, наколькі гэта дазволяць рамкі майго кароткага выступу, выказаць і абгрунтаваць перакананьне, паводле якога багаслоўе ўсходніх каталіцкіх Цэркваў мае ўласную экуменічную місію, і з прычыны менавіта гэтага можа і павінна стаць паўнапраўным партнёрам у сучасным экуменічным дыялогу. Уласна кажучы, сам факт інаўгурацыі Інстытуту экуменічных дасьледаваньняў ва Ўкраінскім Каталіцкім Універсітэце і цяперашняя канферэнцыя зьяўляюцца выразнымі аргументамі на карысьць менавіта такога перакананьня. Тым ня менш, як мне падаецца, ангажаваныя ў справы экуменізму багасловы на Захадзе і на Ўсходзе яшчэ далёка ня цалкам усьведамляюць, што ўклад грэка-каталіцкай (або: усходняй каталіцкай) традыцыі ў экуменічнае багаслоўе зусім не абмяжоўваецца толькі сінкрэтычным спалучэньнем асобных асьпектаў рыма-каталіцкай экуменічнай думкі, з аднога боку, і праваслаўнай, з другога. Экуменічная місія ўсходніх каталіцкіх Цэркваў павінна быць непаўторнаю і зьяўляецца такою – у тым сэнсе, што яна здольная нагадаць сучаснаму сьвету пра такія бакі праблематыкі хрысьціянскай еднасьці, пра якія ня зможа нагадаць ніхто іншы. Гэтая місія не зьяўляецца выключна адмоўнаю, гэта значыць яна ня толькі ў тым, каб на адмоўных гістарычных прыкладах "уніяцтва" засьцерагчы хрысьціянаў розных веравызнаньняў ад прыцягненьня палітыкі ў рэлігійныя справы, ад празелітызму і замахаў на ідэнтычнасць адзін аднаго. Наадварот, яна нясе ў сабе магутны станоўчы "зарад", які можа быць ня толькі выкарыстаны для больш глыбокага разуменьня гістарычнага мінулага, але й накіраваны на пошукі новых шляхоў дзеля агульнай будучыні хрысьціянаў розных веравызнаньняў.

Такім чынам, я хачу прапанаваць тры тэзы, якія маглі б паслужыць адпраўным пунктам для далейшых багаслоўскіх разважаньняў і, спадзяюся, дапамогуць лепшаму разуменьню экуменічнае місіі ўсходніх каталіцкіх Цэркваў.

Тэза першая. Гістарычныя уніі Сярэднявечча і Раньняга Новага часу і іх багаслоўе па сваёй тыпалогіі нашмат бліжэй да экуменізму XX стагоддзя, чым да тых спосабаў вырашэньня рэлігійных канфліктаў, якія панавалі сярод хрысьціянаў да пачатку "ўнійнай эпохі" царкоўнае гісторыі (XIII-XVII стст.), гэта значыць на працягу ўсяго першага тысячагоддзя хрысьціянскай эры. Больш таго: мы маем падставы меркаваць, што менавіта з гістарычных уніяў, асабліва з Фларэнцкае 1439 і Берасьцейскае 1596 году, варта пачынаць адлік перадгісторыі экуменічнага руху. Багаслоўе уніяў той эпохі было па сутнасьці нічым іншым, як экуменічным багаслоўем раньняй стадыі, а гістарычныя уніі – няхай і вельмі недасканалымі, але ўсё ж - папярэднікамі экуменізму нашага часу. Забываючы пра гэта, мы рызыкуем страціць пачуцьцё адзінства царкоўнае гісторыі і традыцыі, адкінуць духоўны досьвед хрысьціянаў, якія жылі і дзейнічалі да нас.

Тэза другая. Палітычная ангажаванасьць, якую сёньня ізноў і ізноў ставяць у папрок

гістарычным уніям Сярэднявечча і Раньняга Новага часу, наўрад ці пераўзыходзіць палітычную ангажаванасьць экуменічнага руху XX стагоддзя,– хоць цалкам зразумела, што гэтая ангажаванасьць у кожным выпадку вызначаецца сваім непаўторным гістарычным кантэкстам. Таму няправільна і нават несумленна прыпісваць палітычны інтарэс выключна адной з гэтых дзьвюх зьяваў, а чыста рэлігійныя памкненьні – іншай. І тут, і там мы знаходзім, з аднога боку, пэўныя палітычныя ўплывы і намеры, а з іншага – сапраўднае рэлігійнае натхненьне. Забываючы пра гэтую складанасьць кожнай з гэтых дзьвюх зьяваў, мы рызыкуем пагрузіцца ў свайго роду рэлігійны пурызм, падобны старажытнаму гнастыцызму, які радыкальна аддзяляў “добры” дух ад “злой” матэрыі, “чыстую” рэлігію ад патанулай у грахох зямной рэальнасьці.

Тэза трэцяя. Цалкам прызнаючы, што уніі ў тым выглядзе, які яны мелі ў эпоху Сярэднявечча і Раньняга Новага часу, сёньня непатрэбныя, ды й немагчымыя, сучаснаму экуменічнаму руху варта, аднак, зьвярнуць увагу на некаторыя істотныя рысы, або, лепш сказаць, выклікі багаслоўя уніяў для хрысьціянаў Захаду і Ўсходу,– выклікі, якія і сёньня здольныя весьці да пошуку новых экуменічных шляхоў, паказваць сучасным хрысьціянам, як можна шукаць еднасьці.

Да тэзы першай, або: Пра экуменічнае вымярэньне спробаў заключэньня уній у эпоху Сярэднявечча і Раньняга Новага часу.

Каб правільна ацаніць экуменічны сэнс гістарычных уній, варта ўзгадаць, якія яшчэ метады пераадоленьня царкоўных спрэчак, канфліктаў, нарэшце, расколаў, вядомыя нам з гісторыі раньнехрысьціянскае эпохі і Сярэднявечча.
Добра вядома, што рознагалосьсі, супярэчнасьці і спрэчкі суправаджаюць гісторыю хрысьціянскае Царквы ад самага пачатку яе існаваньня. Ужо ў кнізе Дзеяў апосталаў апісваецца спрэчка на апостальскім саборы ў Ерусаліме (Дз 15), якая ўзьнікла праз адносіны раньнехрысьціянскіх супольнасьцяў да юдэйскага культу. З царкоўнае гісторыі першага тысячагоддзя нам вядомыя спрэчкі арыянская, монафізіцкая, нестарыянская, монафеліцкая, іконаборніцкая і мноства іншых.

Для вырашэньня такіх спрэчак зьбіраліся, па прыкладзе апосталаў, саборы. З аднога боку, на іх прымаліся важныя для хрысьціянскага веравучэньня і дысцыпліны рашэньні. З другога боку, вынікам гэтых сабораў нярэдка быў раскол, схізма: адна частка ярархіі і вернікаў падтрымлівала адзін пункт гледжаньня, другая – іншы, і непрымірымыя працягвалі, як правіла, і пасьля саборнага рашэньня лічыць сваю дагматычную (або дысцыплінарную) пазіцыю адзіна правільнай. Узьнікалі дзьве паралельныя структуры, дзьве канкуруючыя ярархіі: напрыклад, “арыянская” і “атаназіянская” пасьля Нікейскага сабору 325 году, “монафізіцкая” і “дыфізіцкая” пасьля Халкідонскага сабору 451 году. Што ж адбывалася з гэтымі двума канкуруючымі структурамі далей, як спрабавалі хрысьціяне ізноў знайсьці згубленую еднасьць?

Па-першае, магло адбыцца так, што адзін з гэтых двух варагуючых бакоў быў цалкам зьнішчаны другім, як гэта здарылася ў Візантыйскай Імперыі з арыянствам у IV-V і іконаборствам у VIII і IX стст. Арыянства і іконаборства пасьля доўгай і жорсткай барацьбы былі ў рэшце рэшт цалкам зьнішчаныя імператарскай уладаю, якая прыняла – праўда, далёка не адразу ды пасьля доўгіх ваганьняў і адступленьняў,– бок іхніх супернікаў: “атаназіянаў” – у першым выпадку, “іконадулаў” – у другім. Такім чынам, арыяне і іконаборцы зьніклі з гістарычнае сцэны; практычна ўся іх культура была зьнішчаная, і тое, што мы пра іх сёньня ведаем, прыходзіцца аднаўляць па драбінках, часта толькі на аснове

палемічных твораў іх супернікаў. Так мы сутыкаемся з першым спосабам пераадоленьня ерасяў і расколаў, першым спосабам дасягненьня адзінства – зьнішчэньнем іншага боку. Назавем гэты спосаб для лаканічнасьці “дэструктыўным”.

Лёс двух бакоў у спрэчцы мог разьвівацца і інакш. Сьцерці з твару зямлі партыю супернікаў падтрыманага імператарскай ўладай вучэньня магло і не атрымацца. Менавіта так было з монафізіцтвам і нестарыянствам. Прычынаў гэтага было мноства, але, пэўна, вырашальнай у гістарычнай персьпектыве перашкодаю для поўнага іх зьнішчэньня паслужылі араба-ісламскія заваёвы, якія пачаліся ў VII стагоддзі і ахапілі вялікія вобласьці Ўсходняй Рымскай Імперыі ў Афрыцы і на Блізкім Усходзе. “Нехалкіданіты”, г. зн. хрысьціяне, якія не прызналі рашэньняў Халкідонскага сабору, дзякуючы адноснай памяркоўнасьці арабскіх заваёўнікаў захаваліся і існуюць і сёньня,– прыгадаем Цэрквы Копцкую, Асірыйскую (“усходнесірыйскую”), Сірыйскую (“заходнесірыйскую”), Армянскую ды іншыя. Тым ня менш, яны былі прызнаныя імператарскай Царквою “неправаслаўнымі”, “ератычнымі” і такім чынам пазбаўленыя права называцца “Царквою”. Вось жа, хоць з іх існаваньнем давялося зьмірыцца, яны як бы і не парушаюць адзінства праўдзівае Царквы, паколькі ня ёсьць Царквою. Такі другі спосаб дасягненьня хрысьціянскай еднасьці, вядомы з гісторыі. Гэты спосаб – ня дзейны, не практычны (як першы), а наўменальны, сузіральны, і тым ня менш гэта таксама сродак перамагчы раскол і дасягнуць адзінства. Сутнасьць яго ў тым, што нязгодлівых проста выкрэсьліваюць з ліку прыналежных да Царквы, а сапраўднае царкоўнае адзінства так бы мовіць “згортваецца клубочкам”, сьціскаецца да памераў той царкоўнай супольнасьці, да якой належыць той, хто шукае адзінства. Увесь іншы сьвет знаходзіцца ў ерасі, расколе, аблудзе, а значыць, і не закранае сапраўднага адзінства, якое па сутнасьці сваёй ня можа быць згублена ніколі, нават калі на Зямлі застанецца толькі жменька людзей, якія прытрымліваюцца правільнага вучэньня й дысцыпліны,– такі пункт гледжаньня гэтага другога метаду дасягненьня еднасьці, які мы назавем “эксклюзіўным”.

На фоне рашучай перавагі “дэструктыўных” і “эксклюзіўных” спосабаў пераадоленьня канфліктаў ды расколаў на працягу першага тысячагоддзя хрысьціянскае эры “унія” – гэта й сапраўды новае слова ў царкоўнай гісторыі. Канфліктуючыя бакі больш не спрабуюць зьнішчыць адзін аднаго і не выкрэсьліваюць адзін аднаго з ліку чальцоў адзінае праўдзівае Царквы, але імкнуцца знайсьці агульную аснову для згоды і прыйсьці да кампрамісу. Спосаб дасягненьня еднасьці з дапамогаю “уній” мы можам назваць “інклюзіўным”, бо ён прымае партнёра за эклезіяльную дадзенасьць, з якой варта весьці перамовы і якая заслугоўвае, няхай і з некаторымі карэктывамі, але ўсё ж такі быць прынятай у жаданае хрысьціянскае адзінства. Нельга не прызнаць, што дзеячы уніяў кіраваліся ў сваіх перамовах мадэльлю сабораў першага хрысьціянскага тысячагоддзя. Тым ня менш досьвед “класічных” сусьветных сабораў і іх дыскусіяў быў, як мы ведаем, досьведам ня столькі аб’яднаньня, колькі разьмежаваньня. Уніі ж, наадварот, былі першымі ў гісторыі хрысьціянства спробамі дыялогу і прымірэньня дзьвюх царкоўных структураў, якія да той пары працяглы час цалкам усьвядомлена знаходзіліся ў стане ўзаемнага расколу,– досьведам дыялогу, які далёка не заўсёды быў удалым, але ўсё-ткі быў дыялогам. Пра гэта нам ня варта забываць і сёньня.

Да тэзы другой, або Пра ідэалізм палітыкаў і прагматызм ідэалістаў.

Сучасны экуменічны дыскурс схільны аддзяляць “чыстую палітыку” ад “чыстай рэлігіі”, лічачы, што мы можам амаль пра кожную зьяву царкоўнага жыцьця больш або менш выразна сказаць, ці маем мы справу з праяваю выключна палітычнага інтарэсу або з чыста рэлігійным натхненьнем. Царкоўная рэчаіснасьць, аднак, нашмат больш складаная. Гэтаму ёсьць два выразныя і ў чымсьці падобныя паміж сабою прыклады: з аднога боку, лёс уніяў і

руху за зьядnаньне Цэркваў у XIII-XVIII стст., а з іншай – лёс экуменічнага руху і экуменічных арганізацыяў у XX стагоддзі.

Пра палітычную ангажаванасьць Ліёнскае, Фларэнцкае і Берасьцейскае уніяў пісалася й гаварылася вельмі шмат, і – варта адзначыць – пераважная большасьць назіраньняў гісторыкаў і аналітыкаў справядлівыя. Разам з тым, яны становяцца несправядлівымі, калі тэндэнцыйна спрабуюць зьвесьці ўвесь зьмест гэтых падзеяў да адной толькі палітыкі, ігнаруючы рэлігійнае вымярэньне. Як менавіта спалучаліся паміж сабою ў Берасьцейскай уніі ідэалістычнае імкненьне да хрысьціянскай еднасьці, палітычныя меркаваньні і прагматычныя пошукі выхаду з крызісу, у якой апынулася [беларуска]-украінская Царква ў канцы XVI стагоддзя, добра паказвае вядомая манаграфія а. Барыса Гудзяка "Криза і реформа"[2]. У кантэксьце маёй тэзы варта падкрэсьліць, што гэтае выдатнае дасьледаваньне пераканаўча паказвае ўзаемасувязь, можна сказаць – глыбінную дыялектычнасьць (у гегелеўскім сэнсе слова "дыялектыка") і экзістэнцыяльную непадзельнасьць ідэальнага і прагматычнага асьпектаў падзеяў, зьвязаных з заключэньнем Берасьцейскае уніі. Я перакананы, што пасьля гэтае манаграфіі любы добрасумленны багаслоў-экуменіст, ацэньваючы экуменічную ролю Берасьцейскіх падзеяў, павінен,– няхай нават цалкам прызнаючы палітычныя асьпекты заключэньня саюзу [беларуска]-украінскай Царквы з Рымам,– усё ж карэнным чынам перагледзець тэзу, якая ўжо набіла аскому, пра адсутнасьць праўдзівага рэлігійнага натхненьня ва ўчынках дзеячаў Берасьцейскае уніі.

Пра палітычную ангажаванасьць экуменічнага руху і прафесійных экуменічных інстытуцыяў XX стагоддзя гаварылася і гаворыцца мала і неахвотна. Украінскія грэка-каталікі ў часы савецкае дыктатуры адносіліся да тых нешматлікіх хрысьціянаў сьвету, якія ізноў і ізноў адкрыта заяўлялі: міжнародныя экуменічныя колы і ўстановы на Захадзе ў значнай меры залежаць ад дыктату савецкае палітыкі, а афіцыйныя прадстаўнікі Цэркваў камуністычных краінаў у многіх выпадках выконваюць палітычныя замовы свайго камуністычнага кіраўніцтва. Але грэка-каталікі ў то час, як правіла, уважаліся за "аўтсайдараў" і "радыкалаў", прыслухоўвацца да якіх ня варта. Толькі пасьля развалу "Усходняга блоку" і Савецкага Саюзу на Ўсходзе й на Захадзе пачалі зьяўляцца сур'ёзныя дасьледаваньні, якія на аснове дакументальных матэрыялаў пацьвярджаюць, што пункт гледжаньня грэка-каталікоў быў небеспадстаўны[3]. Тым ня менш, і ў гэтым выпадку нам сёньня патрэбна вялікая асьцярожнасьць – гэтак сама, як і ў дачыненьні гісторыі уніяў. " Гегелеўская дыялектыка" дзейнічае і тут, і было б неразумна й несправядліва перакрэсьліваць вялікія станоўчыя дасягненьні міжнародных экуменічных арганізацыяў 60-х – 80-х гадоў ды адмаўляць шчырасьць і сапраўдныя хрысьціянскія перакананьні ўсіх без выключэньня тагачасных экуменічных прадстаўнікоў камуністычных краінаў[4]. Складанасьць і шматграннасьць гістарычнай рэальнасьці патрабуе ад нас асаблівай ураўнаважанасьці ў ацэнках, і гэты заклік варта скіраваць як да тых грэка-каталікоў, якія і сёньня адпрэчваюць экуменізм з прычыны яго "масквафільскай" арыентацыі, так і да тых сучасных заходніх экуменістаў-прафесіяналаў, якія, гледзячы на грэка-каталіцкую Царкву "вачыма Масквы", уважаюць яе зборышчам палітычных сепаратыстаў. Ці ідзе гаворка пра уніі і грэка-каталікоў, ці пра экуменічны рух, наша задача сёньня – у тэндэнцыйным запале не выплюхнуць разам з вадою і дзіця. Мы павінны спрабаваць ня толькі бязбоязна і адкрыта паказаць на адмоўныя бакі, але і – перш за ўсё – здолець скарыстацца станоўчымі дасягненьнямі гэтых дзьвюх зьяваў хрысьціянскае гісторыі і сучаснасьці.

Да тэзы трэцяй, або: Аб прызнаньні "іншага" і адвазе еднасьці.

Гаворачы пра "выклікі" багаслоўя уніяў сучаснай айкумене, я маю наўвеце перш за ўсё

дзьве тэзы, што вынікаюць з багаслоўскага зьместу гістарычных уніяў. Іх можна вызначыць як:
а). патрабаваньне прызнаць “іншага” у яго “іншасьці”,
б). патрабаваньне адважыцца на жыцьцё ў сулучнасьці і еднасьці “тут і цяпер”.
Гэтыя два патрабаваньні мы можам разглядаць як своеасаблівыя “катэгарычныя імператывы” сьветапогляду уніяў, якія адно другога ўзаемадапаўняюць.

Насуперак даволі распаўсюджанай сёньня пазіцыі, якая вінаваціць багаслоўе уніяў у спробе “уніфікаваць” хрысьціянаў розных культурных традыцыяў, ідэя злучэньня Цэркваў ад самога пачатку ва ўсіх гістарычных выпадках пастулявала – як перадумову любога кроку да еднасьці – неабходнасьць прызнаньня й захаваньня культурнай своеасаблівасьці памесных Цэркваў. Дазволю сабе ў гэтай сувязі спаслацца на сваю нямецкую кнігу “Die Entstehung des Unionsgedankens” (“Генезіс ідэі уніі”), украінскі пераклад якой цяпер рыхтуецца ў Інстытуце гісторыі Царквы Ўкраінскага Каталіцкага Ўніверсітэту[5]. Я перакананы, што матэрыял з крыніцаў XII-XV стагоддзяў, пададзены ў гэтай манаграфіі, здольны паказаць, што ідэя уніі была насамрэч ідэяй раўнапраўя розных хрысьціянскіх культурных традыцыяў, ідэяй прызнаньня чужой царкоўнай культуры раўнацэннаю ўласнай, ідэяй разнастайнасьці абрадавых традыцыяў у хрысьціянстве, і – у рэшце – ідэяй захаваньня розных культур у рамках адзінае Паўсюднай Царквы, якая, паводле “унійнай” канцэпцыі, зьяўляецца “мультыкультурнай”. Немагчыма адмаўляць, што паміж тэорыяй і практыкай, паміж багаслоўем і рэальным увасабленьнем уніяў, на жаль, сапраўды існавала дыстанцыя; тэндэнцыі “уніфікаваць” і “лацінізаваць” Усходнія Цэрквы неаднаразова мелі месца ў рэальнай гісторыі уніяў. Аднак у тым і ёсьць гістарычны лёс уніяў, што яны сталі своеасаблівым “палігонам”, на якім адбываліся “выпрабаваньні” мультыкультурнай мадэлі Паўсюднае Царквы на трываласьць і дзейснасьць. Частыя няўдачы, якія адбываліся пры гэтых нялёгкіх “выпрабаваньнях”, тлумачацца ня слабасьцю тэарэтычнага зьместу “унійнае” мадэлі, а адмоўным ціскам на практыку уніяў “звонку”, найперш з боку палітычнага фактару.

Асаблівае гучаньне набывае сёньня другое патрабаваньне багаслоўя уніяў: сулучнасьць і еднасьць “тут і цяпер” як імператыў экуменічнага дзеяньня. Мы назіраем, што на працягу апошніх дзесяцігоддзяў стала нарастае “стомленасьць” хрысьціянаў і царкоўных структураў ад экуменічнае дзейнасьці, расчараваньне й нежаданьне зрабіць практычныя высновы з вынікаў экуменічнай багаслоўскай працы, свайго роду “страх” перад еднасьцю. Некаторыя багасловы гавораць нават пра параліч, страту дзеяздольнасьці сучаснае айкумены[6]. Паўстае парадаксальная сітуацыя: багаслоўскія дыялогі паміж Цэрквамі ў цэлым шэрагу выпадкаў дайшлі да кансэнсусу па супярэчлівых дагматычных пытаньнях, якія на працягу доўгіх стагоддзяў лічыліся галоўнай прычынай расколу. Дастаткова нагадаць пра вынікі дыялогаў паміж праваслаўнымі і старакатолікамі, праваслаўнымі і арыентальнымі Цэрквамі (“монафізітамі”), а таксама падпісаны ў 1999 годзе ў Аўгсбургу сумесны дакумент Рыма-Каталіцкае Царквы і Сусьветнага Лютэранскага Саюзу адносна вучэньня аб апраўданьні (Rechtfertigungslehre). Здавалася б, застаецца толькі вітаць гэтыя вынікі і рабіць з іх практычныя высновы! Разам з тым, за апошнія дзесяцігоддзі мы ня бачым выпадкаў, калі б дасягненьне дагматычнага кансэнсусу прывяло хоць бы да аднаўленьня сулучнасьці, а тым больш да аб’яднаньня Цэркваў хоць бы ў якой форме. Наадварот, царкоўныя дзеячы і вернікі, калі даведваюцца пра вынікі перамоваў, часьцяком пачынаюць шукаць новыя падставы і аргументы, каб толькі адмовіцца ад еднасьці. Менавіта тут можа быць карысны сучаснай айкумене праваючы выклік грэка-каталіцкіх Цэркваў.

І на самай справе: усходнія хрысьціяне, прымаючы унію, адважваліся менавіта на

сулучнасьць і еднасьць “тут і цяпер”, не вышукваючы прычынаў, каб адкласьці яе “на потым”. Еднасьць не была чымсьці самазразумелым і таму патрабавала духоўнае адвагі і мужнасьці, а таксама здольнасьці і гатовасьці дзейнічаць, пайсьці на рызыку. Можа быць, гэты прыклад зможа натхніць сучасных хрысьціянаў? Зразумела, ня можа быць і гаворкі пра тое, каб грэка-каталікі прапаноўвалі сёньня хрысьціянам усяго сьвету неадкладна заключаць новыя уніі па ўзоры Фларэнцкае або Берасьцейскае. Тым ня менш, грэка-каталікі праз уласны досьвед нібы гавораць сваім “стомленым” ад экуменічнае дзейнасьці сучасьнікам: “Ня бойцеся сулучнасьці, вырашайцеся на еднасьць! Не абяцаем вам лёгкага шляху, бо наш уласны досьвед жыцьця ў еднасьці далёка не бясхмарны. Але спрабаваць і дзейнічаць – лепш адпавядае сапраўднаму духу хрысьціянства, чым бясконца чакаць адзін ад аднаго “гарантыяў” і ганарыцца ўласнай “бліскучай ізаляцыяй” (“splendid isolation”).

Абодва заклікі – заклік да прызнаньня і заклік да еднасьці – непарыўна зьвязаныя паміж сабою. Аднаго патрабаваньня ня можа быць бяз іншага: сулучнасьць і еднасьць “тут і цяпер”, калі яно не падмацавана ўзаемным прызнаньнем “іншага” у яго “іншасьці”, прывядзе да нівеляваньня й паглынаньня аднае структуры іншай. З іншага боку, патрабаваньне ўзаемнага прызнаньня, калі за ім ня бачыць адзінства ў Хрысьце як найвышэйшай мэты экуменічнага дзеяньня, застаецца пустым ды безьзьмястоўным і вядзе, у рэшце рэшт, да ўзаемнае абыякавасьці і ўсёдазволенасьці. На прыкладзе Ўкраінскай Грэка-Каталіцкай Царквы мы бачым, што спалучэньне гэтых двух заклікаў было ўласьціва як яе заснавальнікам, так і зьверхнікам пазьнейшага часу. І – варта зазначыць – менавіта таму яны і лічыліся нярэдка, ды і дагэтуль лічацца, “парушальнікамі спакою” склаўшайся сусьветнай канфесійнай сістэмы. Пачынаючы са знакамітых Берасьцейскіх “Артыкулаў” 1595 году і да “ўнійнай” дзейнасьці мітрапаліта Андрэя (Шаптыцкага) у ХХ стагоддзі каталікі ўсходняй традыцыі ў сваіх пошуках хрысьціянскай еднасьці натхняліся дзьвюма паказанымі асновамі: патрабавалі ўзаемнага прызнаньня паміж living рознымі культурнымі традыцыямі ў хрысьціянстве і разам з тым рэальнай, дзейнай еднасьці.

Напрыканцы нашых разважаньняў варта яшчэ раз падкрэсьліць: грэка-каталікі не прэтэндуюць на выключнае валоданьне “экуменічнай ісьцінай” і ня лічаць унію адзіна правільнаю мадэльлю хрысьціянскай еднасьці. Гаворка ідзе зусім не пра спробу “перасадзіць” эклезіяльныя мадэлі пяцісотгадовае даўнасьці на сучасную глебу, але пра творчае пераасэнсаваньне падзеяў мінулага ў кантэксьце трэцяга тысячагоддзя хрысьціянскае эры. Таму грэка-каталікі цалкам абгрунтавана жадаюць, каб іх голас быў пачуты сучаснай айкуменай, а іх своеасаблівая багаслоўская і духоўная спадчына і яго экуменічная каштоўнасьць прызнаваліся й шанаваліся – зразумела, нараўне з традыцыямі іншых Цэркваў хрысьціянскага сьвету. Няма сумневу, што паўнавартасны ўдзел грэка-каталікоў у міжнародным экуменічным дыялогу пайшоў бы на карысьць менавіта тым вартасьцям, пра якія ідзе гаворка на нашай канферэнцыі, гэта значыць прымірэньню паміж хрысьціянамі і сяброўству як каштоўнасьці для тых, хто верыць у Хрыста і для ўсіх людзей добрай волі.

* Прапанаваны матэрыял – выступ на міжнароднай канферэнцыі ў Львове 11-15 чэрвеня 2005 г., прысьвечанай заснаваньню Інстытуту экуменічных дасьледаваньняў ва Ўкраінскім Каталіцкім Універсітэце.

1 - У маім выступе размова ідзе выключна пра тыя царкоўныя “уніі”, якія ствараліся ў кантэксьце “Захад – Усход”, “усходнія Цэрквы – лацінская Царква”. “Уніі”, якія заключалі між сабою розныя пратэстанцкія канфесіі і дэнамінацыі, а тасама створаныя ў выніку такіх “уніяў” пратэстанцкія “ўніяцкія цэрквы” (ням. unierte Kirchen – назва, упершыню выкарыстаная ў дачыненьні да гэтак званай “Старапрускай Уніі” 1817 году паміж лютэранскай і рэфармацкай традыцыямі) – гэта асобная тэма, якая застанецца па-за межамі майго выступу.

2 - Gudziak, Borys A. Crisis and Reform: The Kyivan Metropolitanate, the Patriarchate of Constantinople, and the Genesis of the Union of Brest. Cambridge (Mass.) 1998. Укр. пер.: Ґудзяк, Борис. Криза і реформа: Київська митрополія, Царгородський патріархат і ґенеза

Берестейської унії. Львів 2000.

3 - Прыклад такога дасьледаваньня ў нямецкамоўнай літаратуры: G. Besier, A. Boyens, G. Lindemann. Nationaler Protestantismus und Ökumenische Bewegung. Berlin 1999.

4 - Пар.: Bremer, Thomas. Schwierige Vergangenheit – unsichere Zukunft. Die Beziehungen zwischen der Russischen Orthodoxen Kirche und den westlichen Kirchen. – In: Ost-West. Europäische Perspektiven, 1 (2000) 192-202.

5 - Avvakumov, Georgij. Die Entstehung des Unionsgedankens. Die lateinische Theologie des Hochmittelalters in der Auseinandersetzung mit dem Ritus der Ostkirche. Berlin 2002.

6 - Пар. разважаньні былога генеральнага сакратара Сусьветнай Рады Цэркваў: Raiser, Konrad. Ökumene im Übergang. Paradigmenwechsel in der ökumenischen Bewegung? Munchen 1989.

**Пераклад з расейскай І.Бараноўскага**

**Паводле сайту РІСУ – Релігійно-інформаційна служба України, www.risu.org.ua**

Гасьцёўня

## Грэка-каталіцкі хор з Сербіі наведаў Беларусь

**Сербія ў сьвядомасьці многіх – краіна выключна праваслаўная. Аднак ёсьць там таксама і грэка-католікі. Пераканацца ў гэтым маглі тыя, хто пабываў у Горадні на VII Міжнародным фестывалі праваслаўных песнапеньняў “Каложскі благавест”, які быў арганізаваны Гарадзенскай япархіяй Беларускага Экзархату РПЦ з 27 лютага па 1 сакавіка 2008 году. Сярод аматарскіх і прафесійных калектываў з Беларусі, Расеі, Украіны, Польшчы і краінаў Балтыі ўдзел у гэтым фестывалі прыняў таксама грэка-каталіцкі хор “Розанаў” з мястэчка Дзьюрдзева ў сербскай правінцыі Ваяводзіна.**



Грэка-католікі ў Сербіі прытрымліваюцца розных літургічных традыцыяў – украінскай, русінскай, харвацкай. Госьці фестывалю ў Горадні – грэка-католікі з Дзьюрдзева – гэта нашчадкі карпацкіх русінаў, якія перасяліліся ў Сербію яшчэ ў XVIII стагоддзі пасьля вызваленьня гэтых земляў ад турэцкага панаваньня і далучэньня іх да Аўстра-Вугоршчыны.

Сёньня Грэка-Каталіцкая Царква ў Сербіі зьяўляецца экзархатам і налічвае каля 20 тысяч вернікаў (у часы адзінай Югаславіі ў гэтай краіне існавала нават япархія). Да яе адміністрацыйна належыць таксама грэка-каталіцкая супольнасьць у незалежнай сёньня Чарнагорыі, аднак там сёньня яшчэ няма душпастырскіх структураў, а толькі невялікія групы вернікаў.

Разам з хорам “Розанаў” на фестываль “Каложскі благавест” у Горадню прыехаў стаўрафорны протаярэй Якім Халашняй – протапрасьвітар аднаго з трох грэка-каталіцкіх дэканатаў у Сербіі. Ён таксама саліраваў падчас выкананьня хорам некалькіх твораў. Уласна з ім удалося сустрэцца і бліжэй пазнаёміцца душпастыру гарадзенскіх грэка-католікаў а. Андрэю Крату.



Цікава, што хор у парафіі Дзьюрдзева ўзьнік спачатку як сямейны хор айца Якіма Халашняй. З 1972 году айцец Якім заняўся аднаўленьнем добрых традыцыяў харавога сьпеву ў парафіі Дзьюрдзева, якую ў гэтай мясцовасьці перад вайною распачаў расейскі белагвардзейскі афіцэр Іван Уладзіміравіч Розанаў. На пачатку ў склад хору ўваходзілі сам сьвятар, яго жонка і сямёра іх дзяцей. Дзеля гэтага хор так тады і называўся – “Халашняй”. Пазьней ён стаў называцца “Розанаў” – у гонар чалавека, які прынёс вядомасьць мясцоваму харавому калектыву. Хор нямала выступаў ня толькі ў Сербіі, але і за яе межамі – у Швайцарыі, Германіі, атрымліваў на міжнародных фестывалях прэстыжныя ўзнагароды. Аснову рэпертуару гэтага хору складаюць царкоўныя сьпевы карпата-русінскага расьпеву, а таксама сьпевы кіеўскага расьпеву і класічныя творы расейскіх кампазітараў Д.Бартнянскага, П.Чайкоўскага, А.Архангельскага, баўгарскага кампазітара Д.Хрыстава і серба Ст. Мокраньца.

Праваслаўныя арганізатары фестывалю “Каложскі благавест” у Горадні адзначылі грэка-каталіцкі хор “Розанаў” з Сербіі сьпецыяльным дыпломам “За захаваньне традыцыяў карпата-русінскага сьпеву”.

Падчас побыту ў Горадні айцец Якім Халашняй змог пабываць у гасьцях у беларускіх грэка-католікаў. У мясцовай капліцы з а. Андрэем Кратом ён саслужыў суботнюю сьв. Літургію за ўсіх памёрлых нашых продкаў (сымбалічна, што набажэнства адбывался па-царкоўнаславянску – на той мове, на якой маліліся нашыя продкі-ўніяты). На памяць пра гэтую малітоўную сустрэчу ён падарыў гарадзенскай парафіі дыск з сьпевамі Боскай Літургіі Яна Залатавуснага ў выкананьні свайго хору, а таксама кнігу “Зборнік багаслужбовых сьпеваў карпата-русінскага расьпеву”.

**На фота:**

1. Грэка-каталіцкі хор “Розанаў” з Сербіі на VII Міжнародным фестывалі праваслаўных песнапеньняў “Каложскі благавест” у Горадні.

2. Горадня, 01.03.2008. Грэка-каталіцкі сьвятар з Сербіі стаўрафорны протаярэй Якім Халашняй разам з а. Андрэем Кратом адпраўляе Літургію за памёрлых у мясцовай капліцы.

**Даведка:**

Апостальскі Экзархат Сербіі і Чарнагорыі для католікаў візантыйскага абраду ўтвораны 28 жніўня 2003 году. Рашэньне пра яго заснаваньне прыняў Папа Ян Павел ІІ. Новы экзархат быў выдзелены са складу Крыжавацкай грэка-каталіцкай япархіі, якая раней ахоплівала ўсіх католікаў візантыйскага абраду, што жылі ў Югаславіі (49 тысячаў вернікаў), таму як пасьля распаду краіны цэнтр япархіі і большая частка парафіяў апынулася на тэрыторыі Харватыі.

Паводле апошніх дадзеных у Сербіі і Чарнагорыі налічваецца 17 грэка-каталіцкіх парафіяў, у якіх служыць 16 сьвятароў, 2 ераманахі і 55 манахіняў.

Першым Апостальскім Экзархам грэка-католікаў Сербіі і Чарнагорыі стаў Уладыка Юры Джуджар, тытулярны біскуп Акраскі, які раней зьяўляўся дапаможным біскупам Мукачыўскай грэка-каталіцкай япархіі ва Ўкраіне. Рэзідэнцыяй Экзарха зьяўляецца катэдра сьв. Мікалая ў г. Рускі Кэрэстур.

**Ігар Бараноўскі**

Крыніцы духу

“Нястомна распаўсюджваць
міласэрную любоў Хрыста”

## Першы Сусьветны апостальскі Кангрэс, прысьвечаны Божай Міласэрнасьці

*Рым, 2-6 красавіка 2008 г.*

Кангрэс пачаўся ў Рыме ў сераду, 2 красавіка 2008 году, сьвятой Імшой, якую ў 3-я ўгодкі сьмерці Слугі Божага Папы Яна Паўла II служыў на Плошчы сьв. Пятра ў Ватыкане Яго Сьвятасьць Папа Бенядыкт XVI. У гэтай сьв. Імшы ўзялі ўдзел больш за сорак тысяч вернікаў з розных краінаў сьвету. У сваёй гаміліі Бенядыкт XVI падкрэсьліў дзьве асноўныя рысы пантыфікату Яна Паўла II: яго сьведчаньне Міласэрнасьці Ўваскрослага Хрыста і вернасьць Хрысту Ўкрыжаванаму.


Сваю гамілію Папа Бенядыкт XVI завяршыў чулымі словамі ўдзячнасьці свайму Папярэдніку. “Няхай Царква, ідучы за Яго навучаньнем і прыкладам, верна і бескампрамісна працягвае Яго евангелізацыйную місію, нястомна распаўсюджваючы міласэрную любоў Хрыста, якая зьяўляецца крыніцаю сапраўднага міру ва ўсім сьвеце”.

Багаслужэньне і словы Сьвятога Айца дазвалялі ўдзельнікам асэнсаваць прароцкую інтуіцыю Яна Паўла II адносна значэньня Божае Міласэрнасьці ў жыцьці Царквы й сьвету. На гэтай службе прысутнічалі Мітрапаліт Менска-Магілеўскі Ўладыка Тадэвуш Кандрусевіч, а. дэкан Ігар Лашук з Менску ды група рыма-каталіцкіх вернікаў з Беларусі. БГКЦ прадстаўлялі Архімандрыт Сяргей (Гаек) і а. Ігар Кандрацьеў з Берасьця, якія ў наступныя дні актыўна ўдзельнічалі ў працы Кангрэсу.

Акрамя беларускіх грэка-каталікаў на Кагрэсе былі таксама прадстаўнікі іншых Усходніх Каталіцкіх Цэркваў: армяна-каталіцкі біскуп Хаўсэп Арнаўці з япархіі Камішлі (Сірыя), мельхіцкі (грэка-каталіцкі) архімандрыт Шарбель з Лівану і група сьвятароў розных усходніх абрадаў з ЗША і Індыі.

Пачынаючы з серады, пасьля абеду ўсе пленарныя сэсіі ды міжнародныя сьв.Імшы праходзілі ў рымскай базыліцы сьв. Яна Хрысьціцеля на Латэране, якая зьяўляецца катэдральным саборам Папы. У працах Кангрэсу ўдзельнічала больш за тры тысячы делегатаў з розных краінаў сьвету.



Кожны дзень прыносіў новыя тэмы для разважаньня і асэнсаваньня. У другі дзень Кангрэсу, 3 красавіка 2008 году, тэма працаў гучала так: “Таямніца Божай Міласэрнасці як скарб Царквы”. Раніцай гэтага дня ў базыліцы сьв. Яна на Латэране прамаўляў кардынал Аўдрыс Юозас Бачкіс, Мітрапаліт Віленскі. Ён асабліва адзначыў, што Папа Ян Павел ІІ паказаў Божую Міласэрнасьць як апостальскую праграму для ўсёй Царквы, а Бенядыкт XVI пераняў і падтрымаў ініцыятыву свайго Папярэдніка.

Віленскі архібіскуп нагадаў удзельнікам, што першы абраз Ісуса Міласэрнага быў напісаны ў Вільні ў 1934 годзе іканапісцам Яўгенам Казіміроўскім паводле вусных апісаньняў сястры Фаўстыны Кавальскай. Годам пазьней, падчас сьвяткаваньня Юбілею 1900-годдзя Адкупленьня, гэты абраз быў зьмешчаны ў Санктуарыюме Вострай Брамы, дзе знаходзіцца цудатворная ікона Маці Божай Міласэрнасьці, а спаведнік сястры Фаўстыны, Слуга Божы а.Міхал Сапоцька, прамовіў у 2-ую велікодную нядзелю гамілію, прысьвечаную Божай Міласэрнасьці. Такім чынам, у Вільні ўпершыню была адзначана ўрачыстасьць Божай Міласэрнасьці, якая толькі ў 2000 годзе па ініцыятыве Яна Паўла ІІ стала адзначацца ва ўсёй Каталіцкай Царкве.

У пятніцу, 4 красавіка, удзельнікі працавалі над тэмай “Міласэрнасьць стымулюе Сулучнасьць у Царкве”. У рамках ранішняй сэсіі праваслаўны Архібіскуп Вены Іларыён (Алфееў) з Маскоўскай Патрыярхіі РПЦ прачытаў даклад пра багаслоўе Ісака Сірыйца, якога можна назваць радыкальным Вяшчуном Божае Міласэрнасьці. Перад дакладам Архімандрыт Сяргей (Гаек) меў нагоду цікавай багаслоўскай размовы з Уладыкам Іларыёнам.

У суботу, 5 красавіка, удзельнікі Кангрэсу разважалі над тэмай: “Роля Міласэрнасьці ў місіі Царквы”.

Тэматыка Кангрэсу была прадметам лекцыяў і разважаньняў таксама ў рэгіянальных круглых сталах.

“Божая міласэрнасьць – мяжа злу” – такою была тэма дакладу Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча, які ён прачытаў у другі дзень працы Кангрэсу, 3 красавіка 2008 году, у царкве Сьвятога Духа (Santo Spirito in Sassia) у рамках круглага стала прадстаўнікоў Цэнтральнай і

Ўсходняй Еўропы. На пачатку свайго выступу Ўладыка Кандрусевіч заўважыў, што гэты Кангрэс мае вялікае значэньне для ўсіх краінаў былога Савецкага Саюзу, бо менавіта краіны былой імперыі сталіся месцам, дзе Божая міласэрнасьць праявілася ў асаблівы спосаб. “Яшчэ ня так даўно здавалася, што на гэтай з’атэізаванай зямлі больш ніколі ня будуць гучаць словы Добрай Весткі, ня будзе адпраўляцца сьв. Імша і ня будуць удзяляцца іншыя сакраманты. Аднак Бог у чарговы раз паказаў, што ўмее выпрастоўваць крывыя лініі гісторыі, што гэта ўласна Ён ставіць апошнюю кропку над “і” і зьяўляецца Ўладаром сьвету. Савецкая імперыя развалілася, як дом з пяску, і пятнаццаць новых, незалежных краінаў будуюць сваю будучыню, хоць парэштні былой сістэмы яшчэ доўга будуць нагадваць пра сябе”,– адзначыў Мітрапаліт Менска-Магілёўскі.



Назва дакладу Мітрапаліта Т.Кандрусевіча супадала з думкай вялікага шанавальніка Божай Міласэрнасьці Слугі Божага Яна Паўла II, які ў сваёй апошняй кнізе “Памяць і самасьвядомасьць” пісаў, што канчатковай мяжою, пакладзенай злу, зьяўляецца Божая Міласэрнасьць. Гаворачы пра асобу Вялікага Папы, архібіскуп Кандрусевіч адзначыў: “З цягам часу, калі, выконваючы служэньне Пятра, Ян Павел II усё глыбей уваходзіў у містычную еднасьць цярпеньня з Хрыстом, ён штораз мацней абвяшчаў Евангельле Любові і Надзеі, абвяшчаў ажно да апошніх дзён свайго пантыфікату. Пасхальную таямніцу Вялікі Папа ўспрымаў у катэгорыях Божай Міласэрнасьці з упэўненасьцю ў тым, што менавіта яна зьяўляецца мяжою зла.

Тэматыка, што разглядалася на Кангрэсе, ажыўляла таксама і супольную малітву ў рамках міжнародных багаслужбаў ды малітоўных чуваньняў. Вечарам кожнага дня розныя групы і каталіцкія супольнасьці паказвалі тэатральныя пастаноўкі на біблійныя тэмы на рымскай гістарычнай плошчы Piazza Navona. З асаблівым зацікаўленьнем, ня толькі ўдзельнікаў Кангрэсу, але і звычайных мінакоў, былі сустрэтыя пастаноўкі, падрыхтаваныя сябрамі міжнароднай супольнасьці “Cenacolo” (“Вячэрнік”), што створанана італійскай манахіняй сястрой Эльвірай для працы з наркаманамі, і бразільскай супольнасьці “Shalom”, якая займаецца працай з беднымі і пакінутымі на вуліцы.

Каб пасланьне Божай Міласэрнасьці данесьці да шырокіх колаў рымлянаў і турыстаў, у суботу ўвечары на вуліцах Рыму меў месца гэтак званы “Festival della Misericordia (“Фестываль Міласарнасьці”).

Кангрэс закончыўся сьв. Імшой, якую ў нядзелю, 6 красавіка 2008 году, пры папскім алтары ў базыліцы сьв. Пятра служыў кардынал Хрыстоф Шонбарн з Вены. Пасьля абеду на сустрэчы рэгіянальных і нацыянальных каардынатараў абмяркоўвалася неабходнасьць розных душпастырскіх ініцыятываў, якія б спрыялі задачы “нястомна распаўсюджваць міласэрную любоў Хрыста”.

У Кангрэсе ўдзельнічалі групы і супольнасьці, якія зацікаўленыя супрацоўніцтвам з БГКЦ. Сярод іх – каталіцкі Альянс “Dives in Misericordia” (AdiM) з Трыдэнту (Trento), які падтрымлівае дзейнасьць санктуарыюма Хрыста Чалавекалюбца ў Маладэчне. Ад іх мы атрымалі фотаздымкі, якія далучаем да гэтага матэрыялу.

**На фота:**

1. Рым, 03.04.2008. Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч на Кангрэсе Божай міласэрнасьці падчас працы круглага стала ў царкве Сьвятога Духа.

2. Ярархі на адкрыцьці Кангрэсу Божай Міласэрнасьці.

3. Удзельнікі Кангрэсу Божай Міласэрнасьці з Альянсу ADiM з Трыдэнту (Італія).

Крыніцы духу

“Міласэрнасьць паказвае сьвету
сапраўднае аблічча Бога
і сапраўднае аблічча чалавека”

***Размова з кардыналам Станіславам Дзівішам***

*Мітрапаліт Кракаўскі кардынал Станіслаў Дзівіш быў адным з арганізатараў I Сусьветнага апостальскага Кангрэсу Божай Міласэрнасьці, які адбыўся ў Рыме 2-6 красавіка 2008 году.*

*Ніжэй падаем фрагменты размовы журналістаў польскага каталіцкага агенцтва KAI з кард. Станіславам Дзівішам напярэдадні Кангрэсу.*



**– Хутка пачнецца I Сусьветны Кангрэс Божай Міласэрнасьці. Як нарадзілася ідэя яго правядзеньня?Якое значэньне будзе мець гэтая сустрэча для Царквы?**

– Кангрэс Божай Міласэрнасьці ў Рыме пачнецца 2 красавіка гэтага году, уласна ў дзень трэцяе гадавіны пераходу да дому Айца, нашага Папы Яна Паўла II, які можа быць названы Папам Міласэрнасьці, бо ня толькі кананізаваў сьв. Сястру Фаўстыну, але таксама напісаў вялікую энцыкліку пра Міласэрнасьць “Dives in misericordia” ды ўстанавіў Сьвята Міласэрнасьці ў II нядзелю Вялікадня.

Ініцыятыва арганізацыі Кангрэсу паходзіць ад кард. Хрыстофа Шонбарна, архібіскупа Вены, які шмат разоў бываў у Кракаўскіх Лагеўніках і пажадаў далучыцца да абвяшчэньня Пасланьня Міласэрнасьці сьвету. Гэты Кангрэс ёсьць вельмі важны для Царквы, бо, як шматразова казаў Ян Павел II, “міласэрнасьць паказвае сьвету праўдзівае аблічча Бога і праўдзівае аблічча чалавека”. Міласэрнасьць нагадвае пра тое, што Бог ёсьць прысутны ў сьвеце і заўсёды побач з сваім народам. Міласэрнасьць, учыненая праз людзей, сьведчыць пра тое, што ў нашых сэрцах ёсьць шмат дабра. Вось жа гэта ёсьць знакам надзеі для сьвету, які патанае ў войнах і бязладдзі.

**– Што гэта значыць быць сьведкам міласэрнасьці?**

– Быць сьведкам міласэрнасьці – значыць усім сваім жыцьцём паказваць праўду аб тым, што Бог ёсьць міласэрны, гэта значыць, не забывае пра чалавека. Ён ідзе разам з ім па сьвеце – праз радасьці і смуткі. Бог міласэрнасьці прыстуны таксама там, дзе чалавек церпіць. Бо поўным праяўленьнем міласэрнасьці

ёсьць мука, сьмерць і Ўваскрасеньне Хрыста. З таямніцы Пасхі паходзяць сакраманты – крыніцы міласэрнасьці. Таму быць сьведкам міласэрнасьці – значыць казаць пра Бога, прысутнага ў дзеях чалавека, і дзяліцца дабрынёю, як Ён сам гэта нам паказаў.

**– Божая міласэрнасьць ня толькі датычыць тых, хто верыць, а, можа, перад усім тых, хто стаіць далёка ад веры?**

– Божая міласэрнасьць атуляе ўсіх людзей. Без выключэньня, таму што яна ёсьць формай Божай любові. Міласэрнасьць — як дождж, які падае на людзей добрых і злых. Больш за тое, міласэрнасьць праяўляецца тады, калі чалавек слабы. Узгадайма прыпавесьць пра марнатраўнага сына.

**– Кажуць, што міласэрнасьць павінна стаяць значна вышэй за справядлівасьць. Як, аднак, кіравацца гэтым у грамадзкім, дзяржаўным ці палітычным жыцьці?**

– Справядлівасьць, як і міласэрнасьць, зьяўляецца адной з якасьцяў Бога. Гэтая якасьць патрабуе аддаць кожнаму тое, што яму належыць. Толькі Бог ёсьць сапраўды справядлівы, бо Ён ведае, на што чалавек заслужыў. Ён знае тайніцы нашага сэрца. Ужо ў Старым Запавеце бачым, аднак, што Бог не адмервае кары, на якую чалавек заслужыў (хоць бы постаць Каіна, які забіў свайго брата Абеля). Міласэрнасьць ёсьць у тым, што Бог увесь час дае чалавеку шанец на ўнутраную перамену і выпраўленьне. Міласэрнасьць ня можа, аднак, замяніць справядлівасьць.
Размаўлялі Марцін Пшэцішэўскі і Крыштаф Тамасік.

**Пераклад з польскай І.Бараноўскага.**

**На фота:** Рым, 03.04.2008. Адкрыцьцё Кангрэсу Божай Міласэрнасьці (кардыналы К.Шонбарн, К.Руіні і С. Дзівіш).

Крыніцы духу

## Бенядыкт XVI: любоў і міласэрнасьць важнейшыя за вялікія ахвяры

8 траўня 2008 г. у Рыме падчас малітвы “Анёл Гасподні” Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI падкрэсьліў, што любоў і міласэрнасьць важнейшыя за вялікія ахвяры. Разважаючы над літургічнымі чытаньнямі нядзелі, у якіх гаварылася пра навяртаньне, Сьвяты Айцец зьвярнуў увагу на тое, што Ісус праявіў Сваю Боскасьць праз любоў і справы міласэрнасьці. Евангельле пра пакліканьне мытніка Мацьвея зьяўляецца сінтэзам хрысьціянскага пасланьня аб тым, што вартасьць пабожным учынкам і выкананьню Божых запаведзяў надае любоў да Бога і бліжняга.

«Няхай Маці Міласэрнасьці абудзіць у нас пачуцьці сыноўняй адданасьці Богу, які зьяўляецца бясконцай Міласэрнасьцю. Няхай дапаможа нам маліцца словамі, якія сьвяты Аўгустын уключыў у вядомы фрагмент сваіх “Вызнаньняў”: “Зьмілуйся нада мною, Госпадзе. Я не хаваю сваіх ранаў. Ты – Лекар, а я цяжка хворы. Ты літуешся над беднымі, а я і ёсьць бядняк. Толькі на веліч Тваёй Міласэрнасьці, Госпадзе Божа, магу спадзявацца”»,– маліўся Сьвяты Айцец на заканчэньне сваіх разважаньняў.

**Паводле Catholic.by**

Парафіяльнае жыцьцё

# Ісус – Госпад і Збавіцель наш!

**Сёлетні дзень Пасхі па юльянскім календары – 27 красавіка 2008 году – у берасьцейскай грэка-каталіцкай парафіі сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя быў незвычайны. Гасьцямі парафіі сталі месіянскія габрэі, г. зн. габрэі, якія вызнаюць сваім Госпадам і Збаўцам Ісуса Хрыста, але імкнуцца захоўваць пры гэтым свае старажытныя нацыянальныя традыцыі. На запрашэньне берасьцейскага грэка-каталіцкага параха а. Ігара Кандрацьева ў Берасьце з Менску прыехалі каля паўсотні вернікаў пратэстанцкай супольнасьці “Зорка Бэтлеему” на чале з пастарам Уладзімірам Хасіным.**

Мэта гэтай экуменічнай сутрэчы ў пасхальны час была ў тым, каб бліжэй пазнаць традыцыі адзін аднаго і ў духу ўзаемнай павагі і брацкай любові праславіць нашага Ўваскрослага Госпада і Збаўцу Ісуса Хрыста. Сёньняшнія хрысьціяне ў большасьці практычна нічога ня ведаюць пра тое, як сьвяткавалі Пасху першахрысьціянскія супольнасьці, якія складаліся тады пераважна з габрэяў. Але ж многія хрысьціянскія традыцыі і абрады маюць свае карані ўласна ў старажытнай юдэйскай цывілізацыі і кульце. Расказаць і пазнаёміць з імі пагадзіўся пастар месіянскіх габрэяў Уладзімір Хасін.

Назва галоўнага хрысьціянскага сьвята Пасхі, як вядома, паходзіць з старажытнагабрэйскага слова “песах”, што азначае “пераход”. Песах – гэта сьвята свабоды ў габрэяў. Яно нагадвае ім пра вялікі Выхад, калі пасьля чатырохсот гадоў цяжкай няволі ў фараона Ўсявышні паслаў свайму абранаму народу прарока Майсея, каб ён вывеў іх з Ягіпту і павёў па цяжкім шляху да свабоды. Да яе ім давялося ісьці сорак гадоў праз пустыню, а дайсьці да Зямлі абяцанае змаглі толькі іх дзеці. На ўспамін пра гэтую радасную падзею ў жыцьці ізраільскага народу і было ўстаноўлена сьвята Пасхі, галоўным момантам якога ёсьць сэдэр (парадак), падчас якога ў вызначаным парадку чытаюць аповед пра Выхад з ягіпецкае няволі і спажываюць сымбалічныя стравы. Ісус, як кожны пабожны ізраільцянін, таксама браў удзел у сьвяткаваньні Пасхі.

Уласна такі традыцыйны пасхальны сэдэр з мацой і ўсімі абавязковымі стравамі быў арганізаваны на велікоднай малітоўнай экуменічнай сустрэчы ў Берасьці ў нядзелю, 27 красавіка, пасьля Боскай Літургіі ў візантыйскім абрадзе, на якой разам з грэка-каталікамі маліліся таксама і госьці: месіянскія габрэі з Менску, рыма-каталікі і прадстаўнікі пратэстанцкіх супольнасьцяў з Берасьця, Кобрыня, Маларыты і Камянца. Пастар Уладзімір Хасін грунтоўна распавёў прысутным вернікам пра сымбалічнае значэньне кожнай стравы. Жанчыны паказалі, як прынята ў габрэяў праслаўляць Госпада танцамі на сьвяце Пасхі.

А потым, да вечара, было сумеснае праслаўленьне малітвай, сьпевамі і танцамі адзінага для ўсіх нас Уваскрослага Госпада Ісуса Хрыста – Збаўцы сьвету. Нашыя канфесійныя рамкі зусім не перашкаджалі разам радавацца і весяліцца, бо “Хрыстос уваскрос з мёртвых!”













**На фота:**

1. Удзельнікі пасхальнай экуменічнай сустрэчы падчас малітвы праслаўленьня.

2. Падчас пасхальнага сэдэру.

3. Берасьце, 27.04.2008. Боская Літургія на якой прысутнічалі месіянскія габрэі.

4. Пасхальны сэдэр: чаша з плодам вінаграднае лазы.

5-6. Пастар месіянскіх габрэяў Уладзімір Хасін распавядае пра сымболіку страваў пасхальнага сэдэру.

**Ігар Бараноўскі**

Парафіяльнае жыцьцё

Угодкі сьмерці Яна Паўла II

**2 красавіка 2008 споўнілася тры гады, як адышоў да дому Айца першы Папа славянін, місіянер Божай Міласэрнасьці, Ян Павел Вялікі. У гэты дзень у касьцёле сьв. Сымона і Алены (Чырвоны касьцёл) у Менску была адслужана сьв. Імша ў інтэнцыі яго хуткай беатыфікацыі.**


Сьвятую Імшу ўзначалілі Апостальскі Нунцый у Беларусі Архібіскуп Марцін Відавіч і дапаможны біскуп Менска-Магілёўскай Архідыяцэзіі Ўладыка Антоні Дзям'янка. З імі саслужылі айцец Дэкан Уладзіслаў Завальнюк (пробашч касьцёлу сьв. Сымона і Алены), іншыя рыма-каталіцкія сьвятары ды тры менскія грэка-каталіцкія сьвятары: Протапрасьвітар Андрэй Абламейка і два вікарыі – а. Андрэй Буйніч і а. Яўген Усошын.

Напачатку сьв. Імшы, пасьля прывітаньня Біскупа Антонія Дзям'янкі, а. Андрэй Абламейка зачытаў Прывітальнае слова Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыта Сяргея Гаека, які ў той час знаходзіўся ў Ватыкане. У сваім пасланьні да ўдзельнікаў менскіх урачыстасьцяў, скіраваным на імя пробашча парафіі сьв. Сымона і Алены, Апостальскі Візітатар БГКЦ напісаў: "Пачэсны Ойча Пробашч! На Вашыя рукі дасылаю гэтыя словы духовай сулучнасьці і салідарнасьці з усімі, хто сёньня ўвечары ў касьцёле сьв. Сымона і Алены ў Мінску ў малітве, якую ўзначальвае Найдастойны Апостальскі Нунцый Уладыка Архібіскуп Марцін Відавіч, адзначае трэція ўгодкі блаславёнага спачыну Слугі Божага Папы Яна Паўла II.

Гэтыя словы сулучнасьці накіроўваю да Высокадастойных Айцоў Біскупаў, Пачэсных Сьвятароў і Сёстраў Манахіняў і ўсіх вернікаў, католікаў двух абрадаў, а таксама братоў праваслаўных, пратэстантаў і ўсіх людзей добрай волі.

Сёньня ў Рыме, каля магілы Слугі Божага Яна Паўла II, зьбіраюцца шматлікія ярархі і вернікі памесных Цэркваў з многіх краінаў сьвету, сярод іх і з Беларусі. Разам з Высокадастойным Мітрапалітам Мінскім і Магілёўскім Архібіскупам Тадэвушам Кадрусевічам молімся тут, у Рыме, аб беатыфікацыі Папы Яна Паўла II.

Дзякуем таксама Госпаду за служэньне гэтага Вялікага Папы і ўсё, што Ён змог зрабіць для Царквы ў Беларусі. Ягоным заступніцкім малітвам перад Міласэрным Хрыстом Чалавекалюбцам давяраем духовую місію Царквы ў нашай дарагой Бацькаўшчыне ды лёс усіх нашых суайчыньнікаў".

Пасьля ўрачыстага набажэнства і кароткага перапынку адбыўся прагляд дваццаціхвіліннага дакументальнага фільму пра Яна Паўла II і канцэрт памяці Вялікага Папы. Пазьней – ужо традыцыйна, калі надышла гадзіна сьмерці Папы Яна Паўла II (21:37), адбылася хвіліна маўчаньня. Скончылася ўрачыстасьць, калі ўсе прысутныя са сьвечкамі і зьнічамі прайшлі ў працэсіі вакол касьцёлу ў цэнтры беларускай сталіцы.

**На фота:** Менск, 02.04.2008. Грэка-каталікі на ўрачыстай багаслужбе ў памяць Яна Паўла II.

Парафіяльнае жыцьцё

## Парафіяльная ўрачыстасьць у гонар Маці Божай Фацімскай у Горадні

**Сваё парафіяльнае сьвята ў нядзелю, 18 траўня 2008 году, адзначыла гарадзенская грэка-каталіцая парафія Маці Божай Фацімскай. Урачыстую літургію ўзначаліў айцец Пахом Кавалёў з Менску, з ім саслужылі айцец Сяргей Стасевіч – сьвятар Беларускай місіі ў Лондане, і душпастыр гарадзенскай парафіі айцец Андрэй Крот**




На ўрачыстае набажэнства сабраліся каля 70 грэка-католікаў і гасьцей з Горадні і Гарадзеншчыны – з Слоніма, Сьвіслачы, Лунна. Паколькі невялічкая парафіяльная капліца на вуліцы Гарадніччанскай не магла б зьмясьціць усіх вернікаў і гасьцей, сьвяткаваньне адбывалася ў значна большай па памерах капліцы айцоў-рэдэмптарыстаў, што знаходзіцца ў мікрараёне Дзевятоўка.

Да скасаваньня Уніі ў 1839 годзе ў Горадні існавала грэка-каталіцкая парафія і два манастыры: жаночы – Раства Багародзіцы, і мужчынскі – Барысаглебскі (Каложскі). Гарадзенская грэка-каталіцкая парафія была адроджаная ў кастрычніку 1992 году. Да лістапада 2004 году яе парахам быў айцец Віктар Данілаў, былы вязень сталінскіх лагероў, які быў патаемна высьвячаны ў 1976 годзе падпольным зьверхнікам ГКЦ украінскім архібіскупам Валадымірам Стэрнюком. Доўгія гады а. Віктар Данілаў падпольна вёў душпастырскую працу сярод католікаў усяго Савецкага Саюза, а на пачатку 1990-х, калі зьявілася магчымасьць легальнай дзейнасьці, стаў на чале гарадзенскай парафіі. Менавіта айцец Віктар Данілаў стаўся ініцыятарам таго, каб назваць парафію ў гонар Маці Божае Фацімскай.

Пасьля ўрачыстай Боскай Літургіі адбылася невялікая навуковая акадэмія. Яе першай часткаю стаўся выступ выкладчыка гарадзенскага ўніверсітэту сп. Янкі Трацяка, аднаго з тых першых парафіянаў, якіх згуртаваў айцец В.Данілаў. Ён распавёў пра пачаткі адраджэньня грэка-каталіцкае Царквы ў Горадні. Другой часткай акадэміі стаўся паказ фотаздымкаў з жыцьця парафіі. Усе прысутныя змаглі пазнаёміцца з фотаздымкамі з розных пілігрымак гарадзенскіх вернікаў (з Віцебску ў Полацак, у Будслаў, на Міжнародную ружанцовую пілігрымку ва Ўкраіне, на сустрэчу са Сьвятым Айцом у Кіеве) ды іншымі. Закончылася сьвяткаваньне супольным пачастункам.

**а. Андрэй Крот**

**На фота:** Горадня, 18.05.2008. Літургія ў касьцёле айцоў рэдэмптарыстаў у дзень парафіяльнага сьвята грэка-каталіцай парафіі Маці Божай Фацімскай.
(Зьлева направа: а. Пахом Кавалёў, а. Сяргей Стасевіч. Андрэй Крот.)

Пілігрым

## Дух еднасьці

*Думкі і разважаньні пасьля Пілігрымкі ў гонар Падляшскіх мучанікаў*
*(Кастамлоты – Пратулін, 30.05-01.06.2008)*




**АПОСТАЛЫ ВЕРЫ**

Вернасьць – вялікі дар Бога. 13 пратулінскіх мучанікаў – простых сялянаў – падчас ганеньняў на Ўніяцкую Царкву ў другой палове 19 ст. засталіся вернымі Госпаду да сьмерці. У іх гонар сёлета з 30 траўня па 1 чэрвеня ладзілася першая пілігрымка па падляшскіх вёсках. Дарэчы, мяне вельмі кранае, што гэтыя сьвятыя – простыя людзі. Сёньня на іх месцы могуць быць настаўнікі, санітаркі, вайскоўцы ці фрэзероўшчыкі…

**ПРА ЧАС І ПРАСТОРУ**

Для нас, групы берасьцейскіх грэка-католікаў на чале з нашым душпастырам а. Ігарам Кандрацьевым, пілігрымка пачалася працоўнага дня ў пятніцу ўвечары, 30 траўня, яшчэ на беларуска-польскай дзяржаўнай мяжы. Госпад у такім нежартоўным месцы натхніў нашую групу на малітву-праслаўленьне. За мяжой нас чакала начоўка ў Нэплях, куды за дзень прыйшла пілігрымка з Кастамлотаў, а ранкам, у суботу – шлях разам з усімі да Пратуліна. У Пратуліне – Боская літургія. Далейшы шлях - назад, у Кастамлоты, дзе пілігрымаў чакаў абед, пасьля – час адпачынку і малітвы ў кастамлоцкай цішы. А ўвечары – канцэрт са сьпевамі і танцамі, вячэра і па-сяброўску блізкае начное чуваньне ля вогнішча.

**НАВУКА**



Пілігрымкі вучаць быць разам – маліцца, радавацца, пераадольваць цяжкасьці, нават проста есьці ці начаваць. Пілігрымкі вучаць быць у еднасьці – адчуваць сябе складовай часткай адзінага цэлага. У падобнай супольнасьці трымацца асобна – проста немагчыма.

**ПІЛІГРЫМЫ**

Людзі ў пілігрымцы былі розныя. Шмат моладзі, як звычайна у пілігрымках. Украінцы, беларусы, палякі. Грэка-каталікі, рыма-каталікі, напэўна, былі і праваслаўныя.

Сьвятары, манахі, семінарысты і простыя вернікі. Сапраўды, розныя, але галоўнае, што не было ніякай розьніцы паміж нацыянальнасьцямі, канфесіямі ці статусам. Побач – брат ці сястра. Такое магчыма толькі, калі Госпад ёсьць паміж сваіх дзяцей.

**АКАФІСТ**



Наш хор на пілігрымку ехаў з дакладным служэньнем: як гаворыцца, з нас – акафіст у гонар Падляшскіх мучанікаў. Выконваючы сваё служэньне, пазнаёмілася і з самім акафістам. Дарэчы, з польскай мовы тэкст перакладзены берасьцейцамі яшчэ ў 2000 годзе. Адмыслова да гэтай пілігрымкі былі выдадзеныя кніжкі з акафістам. Перад Боскай Літургіяй у нядзелю разам з акафістам правіўся малебен у гонар Падляшскіх мучанікаў, які ўзначальваў айцец Зьміцер Грышан з Віцебску.
Падчас акафісту, у малітоўным разважаньні, пра духоўнасьць мучанікаў даведаешся значна болей, чым проста з артыкулаў пра іх. Вельмі раю!

**ЛІТУРГІЯ І КАЗАНЬНЕ**

На літургію мы патрапілі ў суботу і нядзелю. Правіліся яны ў візантыйска-славянскім абрадзе па-царкоўнаславянску. Так міла было чуць “Господи помилуй» з польскім вымаўленьнем. Дарэчы, сьвятыя з Пратуліна таксама на літургіях маліліся па-славянску і, напэўна, з падобным вымаўленьнем...



Казаньне на Літургіі ў нядзелю, напэўна, зразумелі ўсе – і хто ведае польскую мову, і хто ня ведае. Бо праз сьвятара казаў Дух Сьвяты. Госпад праз простыя словы і выкрываў, і абдорваў Сваёй ласкай. Любыя межы – дзяржаўныя, сацыяльныя, канфесійныя і г.д., якія будуе чалавек, маюць адзін выток: чалавек любіць толькі самога сябе – так яму зручней. Мяне ўзрушыла гэтая катэгарычнасьць: чалавек ЛЮБІЦЬ(!) самога сябе. (Ня проста хоча любіць... ці можа любіць...). Хрысьціянін жа імкнецца да еднасьці, хрысьціянін прагне любіць тых, хто вакол.



Кожны адкажа сабе сам – дзе яго сэрца: у сэрцах іншых ці за набудаванымі ад усіх (і ад Госпада ў тым ліку) мурамі. Кожны адкажа сабе сам – ці можа ён звацца хрысьціянінам, што прагне еднасьці. Казанне гэтае было па-польску. Польскую мову я разумею праз слова-праз два, а тое і праз тры. А ў той дзень кожнае слова сьвятара было зразумелым. Сэрца ўзрушвалася ад кожнага слова.

Калі я павярнулася да сястры ў Хрысьце, што сядзела побач са мною, убачыла, што выраз яе вачэй зараз вельмі падобны да майго, яна зараз адчувае тое, што і я: “Вераніка, я нічога не зразумела, але казаньне класнае!”. Такое можа зрабіць толькі Дух Сьвяты. Сьвятар казаў пра еднасьць, дух еднасьці дакранаўся да сэрцаў. Нездарма, бо тут загінулі сьвятыя-ўніяты.

**ЦАРКВА СЬВ. МІКІТЫ**


Старажытная драўляная царква сьв. Мікіты ў Кастамлотах – прыклад жывога адзінства ў разнастайнасьці: васьміканцовыя крыжы і партрэт Яна Паўла ІІ, ружанцы і іконы ўсходніх сьвятых. Там нейкая асаблівая атмасфера – па-хатняму цёплая і па-сялянску простая.

**СЁСТРЫ**

У Кастамлотах ёсьць Малыя сёстры Ісуса. Што зьдзівіла: яны ня проста кажуць пра духоўнасьць брата Шарля дэ Фуко, яны жывуць(!), як ён. З адной розьніцай: замест пустыні – тут добра вядомыя кожнаму з нас палескія краявіды, замест туарэгаў – палякі, беларусы, украінцы... А так – тое ж самае: прастата, гасьціннасьць і неверагодная адкрытасьць, а яшчэ – нязгасны позірк, поўны пяшчоты і Любові. Такі, як у брата Шарля...

**ПРА СЯБЕ**



Калі мы яшчэ выязджалі з Берасьця, мне ў машыне, дзе ехаў хор, далі кніжку з акафістам у гонар Падляшскіх мучанікаў. Шчыра кажучы, я досыць цьмяна ўяўляла, куды мы едзем і дзеля якой нагоды: пілігрымка і пілігрымка, мусім яшчэ акафіст сьпяваць да мучанікаў, пра якіх амаль нічога ня ведаю. Трымаю ў руках кніжку з акафістам і разумею, што мне нават не цікава чытаць пра лёс невядомых мне сьвятых. Ужо на нядзельнай Літургіі ў Кастамлотах, падчас хроснага ходу вакол царквы сьв. Мікіты, адчула, што зараз Падляшскія сьвятыя моляцца перад Айцом нябесным за кожнага з нас, і за мяне ў прыватнасьці. Стала сорамна. Невядомыя сьвятыя сталі больш блізкімі. Сэрца адкрылася на новую Любоў.

**І ЯШЧЭ РАЗ ПРА СЬВЯТЫХ**

Сёньня, сапраўды, на месцы сьвятых сялянаў могуць быць настаўнікі, санітаркі, вайскоўцы ці фрэзероўшчыкі. Адным словам, любы з нас. А за намі – выбар. Выбар вернасьці, выбар Духа, выбар Любові.

**Вераніка Тарасюк**, г.Берасьце

Пілігрым

## Адпачынак з Бібліяй

**На працягу дзевяці дзён, з 26 траўня па 4 чэрвеня 2008 году, група грэка-каталікаў з Беларусі адпачывала ў Хрысьціянскім цэнтры “Ostruda-camp” у польскім горадзе Аструда, што на Мазурах.**

“Адпачынак з Бібліяй” – так называўся гэты міжнародны экуменічны праект, у якім мы бралі ўдзел. Арганізаваны ён быў месіянскімі габрэямі з Беларусі сумесна з польскімі ды амерыканскімі евангельскімі хрысьціянамі. Грэка-каталікі патрапілі ў гэтую праграму па запрашэньні пастара месіянскай супольнасьці “Зорка Бэтлеему” Уладзіміра Хасіна.

Разьлічваючы на звычайны адпачынак, ды яшчэ ў незнаёмай кампаніі, мы, аднак, патрапілі ў нестандартную сітуацыю. Тое, што прапанавалі арганізатары, было больш падобнае на рэкалекцыі і падалося вельмі карысным і цікавым. Мы размаўлялі пра плады Сьвятога Духа. Шмат маліліся, разважалі, дзяліліся думкамі.

Лекцыйныя часткі, якіх было па дзьве на дзень, выкладалі пастары з Амерыкі Дон і Дэвід Хатфілд, а таксама Форэст Стайр. Польскія сябры вялі малітвы і сьпевы, да якіх таксама далучаліся вельмі актыўна беларусы і расіяне.

Асабліва хачу дадаць, што падчас усяго побыту паміж удзельнікамі адпачынку не адбылося ніводнага непаразуменьня. У цэнтры панавала атмасфера прыязнасьці, сяброўства і любові. Мы адчувалі сябе ня проста сябрамі, але сапраўднымі братамі і сёстрамі ў Госпадзе нашым Ісусе Хрысьце.

Вельмі добра, што апошнім часам шмат размоваў ідзе пра еднасьць, ладзяцца экуменічныя сустрэчы ярархаў і выпрацоўваюцца стратэгіі партнёрства, а калі людзі з розных хрысьціянскіх супольнасьцяў (ды што там, з розных

краін!) проста пачынаюць сустракацца і разам маліцца, славіць Бога – у гэты момант нараджаецца сапраўднае адзінства ў Хрысьце.

**Натальля Асмалоўская**, г.Пінск

"Разам" - старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 2 (30)-2008

## Аб хрысьціянскай свабодзе

**“Людзі ў наш час усё больш усьведамляюць сабе годнасьць асобы чалавека, павялічваецца колькасьць тых, хто патрабуе, каб у сваёй дзейнасьці людзі кіраваліся ўласнай развагай і адказнай свабодай – не па прымусу, але кіруючыся ўсьведамленьнем уласных абавязкаў. [..] Паколькі ўсе людзі надзеленыя розумам і свабоднай воляй, а тым самым і асабістай адказнасьцю, сама прырода іх схіляе і маральна абавязвае ўсіх і кожнага з іх шукаць праўды, і найперш тую, якая стасуецца рэлігіі. Яны таксама абавязаны трымацца пры пазнанай праўдзе і ўсё сваё жыцьцё ўладкоўваць згодна з патрабаваньнямі гэтай праўды”.**
**(З Дэкларацыі аб рэлігійнай свабодзе “Dignitatis humanae”).**



У нашыя часы пытаньне свабоды стала адным з самых актуальных. Калі запытацца, што такое свабода, хутчэй за ўсё можна пачуць адказ, што быць свабодным – значыць рабіць, што захочаш, не сустракаючы зьнешняга прымусу, іншымі словамі – быць поўнасьцю незалежным.
Але ці заўсёды чалавек ведае, чаго жадае? Ці можа ён рабіць усё, што жадае? Напэўна, хвілінны запал ня ёсьць сапраўднай свабодай. А перадусім, магчымасьці чалавека абмежаваныя яго ўласнай прыродай, ён жадае больш, чым можа рэалізаваць. Нават калі ён і вызваліцца ад абмежаваньняў, акалічнасьцяў і абавязкаў атачэньня, зьяўляецца пачуцьцё пустэчы і самотнасьці, паўстаюць пытаньні, куды падзець гэтую свабоду і што з ёй рабіць.
Кожны чалавек жадае дабра і пазьбягае зла. З лёгкасьцю прызнае сябе добрым і не жадае прызнавацца ў сваіх памылках, зьмяншае зло, якое сам робіць іншым. Прыпісвае зло, якое сустракае ў сваім жыцьці, бацькам, начальству, палітыкам, усемагутнаму Богу. Самае галоўнае – чалавек не імкнецца пазнаць Дабро, але сам вырашае, што ёсьць дабро, а што зло, і тым самым адмаўляе ідэю Бога і паняцьце граху. Не прымаючы Бога як Падмурак і Мэту, чалавек глыбока парушае свой лад і ўнутраную гармонію, а таксама гармонію грамадзтва і ўсёй створанай прыроды.
Прызнаючы сябе цэнтрам свайго жыцьця, чалавек імкнецца задаволіць свае патрэбы праз багацьце, уладу, забавы, пагарду іншымі людзьмі, да якіх ставіцца як да рэчаў ці сродкаў. Такім чынам, перад чалавекам стаіць альтэрнатыва: з аднаго боку, стаць як багі і са сьпячым сумленьнем прыдумляць сваю асабістую мараль, тым самым выракаючы сябе на жыцьцё бяз Бога, а гэта значыць на сьмерць; а з другога – строгае выкананьне загадаў прыводзіць да крывадушнасьці і фарысейства, паколькі ўсе намаганьні розуму, скіраваныя на тое, каб прытрымлівацца дабра, скажаюцца прыхільнасьцямі пашкоджанай першародным грахом прыроды.
Але Госпад не пакінуў чалавека ў роспачы. Абяцанае непаслухмяным прабацькам вызваленьне выканалася ўвасабленьнем Божага Сына Ісуса Хрыста. У Ім Бог аб’яўляецца нам як міласэрны Айцец, Якому можам даверыць самыя цёмныя закуткі нашай душы. Праз свой Крыж і Ўваскрасеньне Хрыстос зьдзейсьніў нашае Адкупленьне, якое ёсьць вызваленьнем у поўным значэньні, паколькі выбавіла ад найбольш радыкальнага зла, ад граху. Праз Хрыста сьмерць ужо ня мае ўлады над чалавекам, бо кожны пакліканы да ўваскрасеньня падобнага да Яго ўваскрасеньня. Свабода, якую прынёс нам Хрыстос у Сьвятым Духу, вярнула нам здольнасьць да самаадданай любові да Бога. Мы сталі незалежнымі ад бязладнага самалюбства, якое зьяўляецца крыніцай пагарды бліжняга і жаданьня панаваць над людзьмі. Апостал Павел піша: “Стойце ў свабодзе, якую дараваў нам Хрыстос, і не жадайце ізноў трапіць пад ярмо няволі” (Гал 5, 1). А гэта значыць змагайцеся і трывайце, каб не патрапіць ізноў да няволі. Існаваньне хрысьціяніна – гэта духоўная барацьба з дапамогай Божай сілы за жыцьцё згодна з Евангельлем. І мы маем сілу і надзею на нашую перамогу над злом у перамозе любові Хрыста, якой ніхто не зможа супрацівіцца.
Дар свабоды ёсьць неад\'емнай часткай чалавека, які быў дадзены пры стварэньні Госпадам: "Ён ад пачатку стварыў чалавека і пакінуў яго ў руцэ волі яго" (Сір 15, 14). Чалавек, створаны, каб панаваць над сьветам, атрымлівае праз гэта магчымасьць кіраваць сабой. Так сьв. Рыгор з Нісы піша ў трактаце “Пра стварэньне чалавека”: “Душа выяўляе сваю царскасьць тым, што ня мае ўладара над сабой і як вольная, яна самадзяржаўна кіруе сваімі жаданьнямі. А ў каго гэта

можа быць, акрамя цара? Паколькі чалавечая прырода праз падабенства Цару ўсяго была прыгатаваная да начальніцтва над іншымі, яна стала як бы адухаўлёнай выявай, якая прыналежыць першаўзору як годнасьцю, так і імем. Яна, замест пурпуру, пакрытая дабрадзейнасьцю, якая большая за ўсе адзежы, а замест скіпетра абапіраецца на асалоду несьмяротнасьці, а замест царскай дыядэмы ўпрыгожылася вянком праведнасьці, так што ва ўсім даказала сваю царскую годнасьць дакладным падабенствам прыгажосьці першаўзору".
І сапраўды, як пануючы над сьветам чалавек уладкоўвае яго згодна з сваім разуменьнем і воляй, таксама? калі робіць дабро, ён пацьвярджае, разьвівае і ўмацоўвае ў сабе падабенства да Бога. Адбітак вобразу Бога ў чалавеку схіляе яго да пошуку Дабра, дапушчае да ўдзелу ў Божым Жыцьці. Сапраўдная свабода праяўляецца ў тым, што чалавек можа зразумець і прыняць Божыя запаветы, якія ёсьць Дабром і ў якіх знаходзіць паўнату шчасьця.

**семінарыст Аляксей Філіпенка**

"Разам" - старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 2 (30)-2008

## Юбілейная XXV Экуменічная сустрэча моладзі ў Кодані

**У колішняй рэзідэнцыі Сапегаў у мястэчку Кодань, што на Падляшшы, за 15 км на поўдзень ад Берасьця, з польскага боку ракі Буг, 23-25 траўня 2008 году прайшла XXV Экуменічная сустрэча моладзі. Стала ўжо традыцыяй, што тэма штогадовых коданьскіх сустрэчаў такая ж самая, як і Тыдня малітваў за еднасьць хрысьціянаў (18–25 студзеня). У гэтым годзе гэта былі словы: «Няспынна маліцеся» (1 Сал 5, 17).**

У сустрэчы прынялі ўдзел каля 150 асобаў з розных мясцовасьцяў Польшчы, найперш моладзь з групаў, якія зьвязаныя з экуменічнай Супольнасьцю Тэзэ, а таксама вернікі розных Цэркваў ды царкоўных Супольнасьцяў. Былі таксама прадстаўнікі хрысьціянскай моладзі з Беларусі, у тым ліку семінарысты БГКЦ Аляксей Філіпенка і Андрэй Гайдукевіч, якія вучацца ў Польшчы.

Гасьціну ўдзельнікам сустрэчы, ужо традыцыйна, зладзілі айцы Аблаты Беззаганай Дзевы Марыі. Пра арганізацыйны бок клапаціліся а. Караль Ліпінскі OMI (ён раней быў супэрыёрам кляштару ў Кодані, а сёньня – супэрыёр кляштару на гары Сьвяты Крыж каля Кельцаў) ды сябры розных экуменічных моладзевых групаў з Келеччыны, працай якіх нястомна кіраваў ветэран коданьскіх сустрэчаў Яцак Дзюбел.

Гэта было XXV юбілейнае спатканьне. На тры дні мястэчка Кодань і ваколіцы, дзе стагоддзямі побач жылі рыма-каталікі, грэка-католікі (якіх тут традыцыйна называюць уніятамі), праваслаўныя і пратэстанты (найперш лютэране), сталі месцам супольных малітваў, пілігрымак, спатканьняў, а таксама дыскусіяў маладых вернікаў на тэму дыялогу паміж хрысьціянамі. Удзельнікі коданьскіх сустрэчаў падзяліліся сьведчаньнямі свайго заангажаваньня ў справу еднасьці хрысьціянаў і разьвіцьця міжканфесійнага супрацоўніцтва.

Сама ідэя экуменічных сустрэчаў нарадзілася ў 1983 годзе як форма малітоўнай падзякі за моладзевыя сустрэчы Тэзэ. Ад пачатку галоўнай думкай ініцыятараў была малітва за еднасьць хрысьціянаў, за прымірэньне і мір. Як месца, дзе мела працягваецца малітва ў духу сустрэчаў Тэзэ быў прапанаваны санктуарыюм Маці Божай у Кодані. Зрабіў гэта душпастыр гэтага ж санктуарыюма а. Анджэй Мадэй; сёньня ён пастыр (прадстаўнік Апостальскай Сталіцы) для каталіцкай Супольнасьці ў Туркменістане.

Ад самага пачатку гэтых сустрэчаў у Кодані хрысьціянская моладзь, што зьбіралася над памежнай ракой Буг, малілася за моладзь з другога боку ракі: у Беларусі і Ўкраіне. З часам на гэтыя сустрэчы пачалі прыязджаць маладыя людзі з Беларусі, Украіны, Расеі, Эстоніі, Латвіі. Пачынаючы з 1991 году ў Коданьскіх сустрэчах ня раз удзельнічалі і беларускія грэка-католікі, асабліва з Берасьцейшчыны. У апошнія гады ў Кодань шмат маладых людзей прыязджае з Кельцаў, Варшавы, Беластоку, Лодзі, Любліна і Сандамера.

Экуменічныя сустрэчы ў Кодані традыцыйна адбываюцца ў апошнія выходныя траўня, праходзяць яны па ўстаноўленым ужо некалькі гадоў раскладзе. Так было і ў гэтым годзе.

Малітоўную праграму вечара пятніцы, 23 траўня, з Літургіяй Слова, якая праходзіла ў старажытнай уніяцкай царкве Сьвятога Духа, збудаванай у стылі беларускай готыкі, падрыхтавалі пратэстанты. Са словам прывітаньня да ўдзельнікаў юбілейнай 25-й сустрэчы ў Кодані выступіў Апостальскі Візітатар БГКЦ Архімандрыт Сяргей (Гаек). У гэтым прывітаньні ён прасіў удзельнікаў працягваць малітву за моладзь з другога боку ракі Буг: каб моладзь Польшчы, Беларусі і Ўкраіны зьядналася ў Хрысьце, каб магла даваць сумеснае сьведчаньне, што Божае Слова для ўсіх ёсьць крыніцаю надзеі.

На другі дзень, у суботу раніцай, моладзь сабралася ў коданьскай базыліцы з цудатворнай іконай Маці Божай, якая з даўніх часоў шануецца па абодва бакі Буга. Была адслужана Еўхарыстыя (у рымы-каталіцкім абрадзе), якую ўзначальваў айцец Зьбігнеў Ніканюк, з якім саслужылі архімандрыт Сяргей Гаек і архімандрыт Раман Пентка. Казаньне на тэму няспыннай малітвы прамовіў Архімандрыт Раман. Пасьля імшы праходзілі гэтак званыя варштаты і сустрэчы ў малых групах, тэмы якіх былі зьвязаныя з экуменічным дыялогам паміж Цэрквамі. А пад вечар моладзь сабралася на

экуменічную малітву ўжо ў мясцовай праваслаўнай царкве, дзе была адслужана вячэрня. Увечары гэтага ж дня ў былой уніяцкай царкве Сьвятога Духа (цяпер касьцёл) быў адсьпяваны Акафіст да Найсьвятой Багародзіцы.

У нядзелю, 25 траўня 2008 году, удзельнікі Коданьскай экуменічнай сустрэчы моладзі маліліся на Боскай Літургіі ў старажытнай уніяцкай царкве сьв. Мікіты ў Кастамлотах. Гасьцінна прыняў усіх мясцовы парах а. Зьбігнеў Ніканюк разам з парафіянамі.

Варта дадаць, што на працягу 25-ці гадоў у Коданьскіх сустрэчах бралі актыўны ўдзел (як выкладчыкі, прапаведнікі і выступоўцы, якія дзяліліся сваімі сьведчаньнямі) многія душпастыры, семінарысты і вернікі БГКЦ.

**семінарыст Андрэй Гайдукевіч**

"Разам" - старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 2 (30)-2008

## Пасха ў Любліне

**У канцы красавіка 2008 г. семінарысты БГКЦ Сяргей Раюнец і Андрэй Гайдукевіч былі ў Любліне з нагоды сьвяткаваньня нашымі братамі з УГКЦ сьвята Ўваскрасеньня Хрыстовага.**

Прыехалі мы ў суботу, 26 красавіка, папалудні і, як гэта было прадугледжана, разьмясьціліся ў доме супольнасьці айцоў марыянаў. Тут мы сустрэлі айца архімандрыта Рамана Пентку, да нядаўняга часу параха каталіцкай парафіі візантыйскага абраду ў Кастамлотах, якога многія ў нашай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве добра ведаюць. Гэты сьвятар амаль сорак гадоў апекаваўся вернікамі ў Кастамлотах. Цяпер ён па стане здароўя знаходзіцца на адпачынку ў Любліне, але працягвае перакладаць богаслужбовыя тэксты. Таксама час ад часу ён прыязджае да семінарыстаў у Драгічын, каб адслужыць разам з імі Боскую Літургію, падзяліцца літургічнымі ведамі, ды і проста жыцьцёвым вопытам.

Вечарам, у суботу, мы з айцом Раманам паехалі да грэка-каталіцкай царквы Раства Багародзіцы. Там пазнаёміліся з грэка-каталіцкім парахам у Любліне а. Стэфанам Батрухам і ўкраінскімі семінарыстамі ды адслужылі з імі ўрачыстую вячэрню. Тут, безумоўна, хочацца адзначыць хор семінарыстаў – вельмі прыгожы малітоўны сьпеў. Моцны, спакойны, сьвяточны. У нядзелю раніцай, 27 красавіка, была Пасхальная ютрань і архірэйская Літургія сьв. Яна Залатвуснага. Яе служыў Мітрапаліт Перамышльска-Варшаўскі кір Ян Мартыняк. Саслужылі яшчэ некалькі сьвятароў, сярод якіх быў таксама і новы парах з Кастамлотаў а. Зьбігнеў Ніканюк. Гэтыя велікодныя ўрачыстасьці ў Любліне запісвала нацыянальнае польскае тэлебачэньне TVP-1. У нядзелю мы вярнуліся ў сваю Драгічынскую семінарыю.

**семінарыст Сяргей Раюнец**

"Разам" - старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 2 (30)-2008

## На дарозе ў Сіднэй...<br>і ў Івянец

*“Атрымаеце моц ад сышоўшага на вас Духа Сьвятога<br>і будзеце Мне сьведкамі” (Дз 1, 8).*

Моладзь з усяго сьвету кожныя чатыры гады сустракаецца ў розных месцах і на розных кантынентах у рамках Сусьветнага Дня моладзі, каб яднацца ў малітве разам з Сьвятым Айцом. Сёлета Сусьветны Дзень моладзі адбудзецца ў Сіднэі (Аўстралія).

З Беларусі ў гэтым спатканьні будзе ўдзельнічаць пяць маладых людзей: па адным прадстаўніку з кожнай рыма-каталіцкай дыяцэзіі і адзін прадстаўнік моладзі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, на чале з Біскупам Антоніем Дзям'янкам.

Каб даць магчымасьць моладзі з Беларусі адчуць лучнасьць з моладдзю ўсяго сьвету і з Сьвятым Айцом Бенядыктам XVI, каталіцкая ярархі Беларусі вырашылі арганізаваць такую сустрэчу на тэрыторыі Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі ў мястэчку Івянец (60 км ад Менску) 18-20 ліпеня 2008 году.

Сабраная ў Івянцы моладзь будзе мець магчымасьць зьяднацца з Папам Бенядыктам XVI і з

моладдзю, сабранай у Сіднэі, з дапамогаю сучасных медыяльных сродкаў. Таксама гэта будзе час супольнай малітвы, разважаньня Божага Слова і праслаўленьня Бога сьпевам. Моладзь БГКЦ засьпявае на гэтай сустрэчы акафіст.

**За ўдзел моладзі БГКЦ у сустрэчы ў Івянцы адказны а. Аляксандр Шаўцоў.**

"Разам" - старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 2 (30)-2008

## Ватыкан заклікае сьвятароў да евангельскага радыкалізму

**Кангрэгацыя па справах духавенства заахвоціла сьвятароў папярэджваць кожную справу малітвай, бо ад яе залежыць пасьпяховасьць працы сьвятара.**

Гэты заклік быў зьмешчаны ў лісьце, скіраваным на Сусьветны дзень малітваў за сьвятароў, які адзначаўся ва ўрачыстасьць Найсьвяцейшага Сэрца Ісуса (паводле лацінскага абраду) 30 траўня 2008 году. Пасланьне падпісалі прэфект Кангрэгацыі кардынал Дарыё Кастрыльён Ояс і яе сакратар архібіскуп Марыё П'ячэнца.

Аўтары ліста нагадваюць, што "ад асабістай лучнасьці кожнага сьвятара з Госпадам Ісусам у вялікай ступені залежыць місія Царквы".

**Паводле Catholic.by**

"Разам" - старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 2 (30)-2008

## Прымірэньне і сацыяльныя выклікі для хрысьціянаў

**Багаслоўская канферэнцыя "Сучасныя сацыяльныя выклікі для хрысьціянаў Еўропы" адбылася 6 траўня 2008 году ў Менску ў Інстытуце тэалогіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту. Яна сабрала прадстаўнікоў асноўных хрысьціянскіх канфесіяў Беларусі. Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква была прадстаўлена групай сьвятароў на чале з Апостальскім Візітатарам архімандрытам Сяргеем (Гаекам).**

Гэтая канферэнцыя -- адно з запланаваных мерапрыемстваў падчас візіту у Менск 5-7 траўня 2008 году працоўнай групы міжнароднага экуменічнага праекту "Прымірэньне ў Еўропе – заданьне для Цэркваў Германіі, Польшчы, Украіны і Белаусі".

Праект "Прымірэньне ў Еўропе" паўстаў каля 10 гадоў таму па ініцыятыве Польскай экуменічнай Рады і Евангелісцкай Царквы Германіі, якія вырашылі падзяліцца і распаўсюдзіць вопыт прымірэньня паміж сваімі краінамі і Цэрквамі. Пазьней да праекту далучыліся прадстаўнікі рыма-каталіцкай, грэка-каталіцкай і праваслаўнай Цэркваў Беларусі, Украіны, Германіі, Польшчы. У беларускай сталіцы прадстаўнікі працоўнай групы сустракаюцца ўжо другі раз.

У Менску 5-7 траўня 2008 году сябры працоўнай групы праекту "Прымірэньне ў Еўропе" сутрэліся з кіраўнікамі найбуйнешых канфесіяў Беларусі -- мітрапалітам Менскім і Слуцкім Філарэтам і рыма-каталіцкім мітрапалітам Менска-Магілёўскім Тадэвушам Кандрусевічам. У складзе працоўнай групы былі польскі праваслаўны архібіскуп Уроцлаўска-Шчэцінскі Ерамія, прадстаўнік Вышэйшай царкоўнай Рады Евангелісцкай Царквы Германіі Міхаэль Хюбнэр, прадстаўнік Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Польшчы ксёндз д-р Зігфрыд Глезэр і біскуп Евангелісцкай Царквы Германіі Клаўс Воленвэбер. Грэка-Каталіцкую Царкву ў працоўнай групе прадстаўляў сп. Алег Турый, прафесар з Львова.

У рамках візіту працоўнай групы Праект "Прымірэньне ў Еўропе" адбыўся таксама брыфінг для журналістаў, на якім, дарэчы, мітрапаліт РКЦ у Беларусі Ўладыка Т.Кандрусевіч паведаміў, што мітрапліт Філарэт, Патрыяршы Экзарх Беларусі, прапанаваў падрыхтаваць сумесны пераклад Бібліі на беларускую мову і гэтая прапанова была прынята.

На канферэнцыі "Сучасныя сацыяльныя выклікі для хрысьціянаў Еўропы" з дакладамі выступілі мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч, доктар сацыялагічных навук А.Данілаў, кіраўнік фонду імя сьв. Кірылы і Мятода сп. Даўгяла. Напрыканцы адбылася дыскусія на тэму канкрэтных магчымасьцяў супрацоўніцтва паміж хрысьціянскімі канфесіямі ў сацыяльнай сферы. Як адзін з крокаў такога супрацоўніцтва ўзгадвалася падпісаная ў сьнежні мінулага году Дэкларацыя сацыяльнага партнёрства хрысьціянскіх Цэркваў Беларусі ў барацьбе з праблемай эпідэміі ВІЧ-СНІД. Выказвалася таксама жаданьне рашэньні кіраўнікоў канфесій пераўтварыць у канкрэтнае супрацоўніцтва паміж хрысьціянамі ў рэгіёнах.

Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква ўжо мае некалькі добрых прыкладаў супрацоўніцтва ў сацыяльнай сферы. У Горадні душпастыры розных канфесіяў прынялі ўдзел у шэрагу мерапрыемстваў з нагоды Міжнароднага дня інваліда, а падарункі дваццаці васьмі дзецям-інвалідам, якія навучаюцца ў гарадзенскай школе №4, падрыхтавалі разам вернікі рыма- і грэка-каталіцкіх парафіяў, а таксама вернікі з супольнасьці хрысьціянаў веры евангельскай і поўнаевангельскай грамады.

Багаты вопыт супрацоўніцтва ў дабрачыннай сферы паміж грэка-каталікамі, рыма-каталікамі і пратэстантамі розных накірункаў існуе таксама ў Віцебску і Воршы. Напрыклад, у рамках нефармальнага валанцёрскага студэнцкага руху маладыя хрысьціяне апякуюцца насельнікамі Дому ветэранаў і інвалідаў, для дзяцей-сірот з віцебскага дому-інтэрнату ладзяць гульні, праводзяць розныя забаўляльныя і пазнавальныя праграмы, наведваюць хворых і састарэлых па хатах.

**а. Андрэй Крот**

"Разам" - старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 2 (30)-2008

## Віншаваньне з абаронай магістарскай працы

Віншуем семінарыста БГКЦ
**Віталя БЫСТРОВА**,
выпускніка Івана-Франкоўскай Тэалагічнай Акадэміі,
з пасьпяховай абаронай магістарскай працы
**“Багаслоўска-гістарычны аналіз
паўстаньня дагмату пра дзьве
прыроды Ісуса Хрыста”**,
якая была прызнана сёлета адной з лепшых.

"Разам" - старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 2 (30)-2008

## “Быць выканаўцамі Слова”

(пар. Як 1,22)



Колькі часу перад заканчэньнем сярэдняй школы сьвятар, які ў нашай парафіі апекаваўся моладдзю, прапанаваў нам узяць удзел у трохдзённых, гэтак званых “закрытых”, рэкалекцыях у адным з кляштараў у Чанстахове.

Я, праўда, хадзіла на катэхетычныя сустрэчы ды ў нядзелю на сьв. Літургію (бацькі вымагалі гэтага ад мяне), але на гэтым заканчвалася мая вера. На рэкалекцыі, на тры дні ў манастыр, мне асабліва ехаць не хацелася. Але паколькі ехалі туды мае сябры ды сяброўкі, а мама вельмі настойвала, я ў рэшце рэшт прыняла запрашэньне.

Сьвятар, які праводзіў рэкалекцыі, прафесар епархіяльнай Духоўнай семінарыі, стаў тым чалавекам, якога Бог выбраў, каб прамаўляць да майго сэрца. Не памятаю тэмы рэкалекцыяў, але тое, як сьвятар гаварыў пра Бога, глыбока закранула мяне. Першы раз у жыцьці ў мяне было ўражаньне, што хтосьці гаворыць пра Бога так, нібы ведае яго асабіста, нібы сустрэў Яго ў сваім жыцьці і падтрымліваў з Ім жывы кантакт. Калі ён служыў Літургію і калі маліўся, у мяне складалася ўражаньне, што ён прамаўляе да кагосьці блізкага яму...

Ува мне само па сабе нараджалася пытаньне: як гэта сталася, што ён мае вопыт чагосьці, чаго я не ведаю? Як сустрэць

Бога і застацца з Ім у кантакце? Як пачуць Яго голас? Я прыступіла да сьвятой Споведзі і на ёй задала ўсе гэтыя пытаньні сьвятару. Ён слухаў мяне ўважліва і даў мне вельмі просты адказ: “Пачні чытаць Евангельле. Там ты знойдзеш адказ на ўсе пытаньні. Калі якое-небудзь слова закране тваё сэрца, затрымайся над ім. Праз яго Бог хоча табе штосьці сказаць’’.

Я прыслухалася да словаў сьвятара і, калі вярнулася дахаты, пачала чытаць Евангельле. І вельмі хутка я пераканалася ў праўдзівасьці словаў сьвятара. Першы раз у жыцьці я ўсьвядоміла, што Бог гаварыў да мяне праз словы Сьвятога Пісаньня. Я адкрыла для сябе, што словы Бібліі – не чалавечыя словы. Слова Божае жывое. Бог сапраўды гаворыць да нас, а я пра гэта раней ня ведала. Я не ўмела патлумачыць, як гэта адбываецца, але гэта была праўда. Так распачалася мая жывая сувязь са Сьвятым Пісаньнем.

* * *

Тыя тры дні, праведзеныя ў манастыры на рэкалекцыях, карэнным чынам перамянілі маё жыцьцё, яго сэнс і мэту. У апошні момант я зьмяніла выбраны напрамак навучаньня. Я адмовілася ад здачы іспытаў і паступленьня на медычны факультэт і прыняла рашэньне прысьвяціць сябе вывучэньню Сьвятога Пісаньня. Навучаньне на тэалагічным факультэце Каталіцкага ўніверсітэту ў Любліне стала адказам на маё памкненьне. Там я зразумела, наколькі важна чытаць Сьвятое Пісаньне ў кантэксьце ўсяго навучаньня Царквы. І ня толькі чытаць. Слова Божае трэба ўважліва чытаць і жыць ім. Трэба сур’ёзна паставіцца да словаў сьвятога апостала Якуба: “Будзьце выканаўцамі Слова, а ня толькі слухачамі, якія саміх сябе ашукваюць” (Як 1, 22).

* * *

Падчас маёй вучобы ў Каталіцкім універсітэце я ўвайшла ў каталіцкую супольнасьць, якая дапамагала мне быць “выканаўцам Слова” і несьці гэтае Слова іншым як крыніцу надзеі. Так пачалася мая “прыгода” са Словам Божым.

Цяпер я жыву ў Бельгіі, у манастыры Фішарман каля Ватэрлоа і зьяўляюся сябрам каталіцкай супольнасьці “Le Verbe de Vie” (з франц. – “Слова жыцьця”). Гэта супольнасьць, у якой з блаславеньня Царквы жывуць разам сем’і з дзецьмі, манахіні ды сьвецкія вернікі-цэлібаты (мужчыны і жанчыны). Галоўнае пакліканьне нашае Супольнасьці – пазнаваць і абвяшчаць іншым Слова Божае.

Кожны дзень мы пачынаем і заканчваем літургічнай малітвай Царквы паводле Часаслова. Імкнемся выкарыстоўваць багацьце тэкстаў ды мелодыяў Усходняе Царквы (асабліва візантыйска-славянскай традыцыі). Нашыя любімыя сьпевы – гэта трапар “Хрыстос уваскрос з мёртвых”, стыхіра “Уладару нябесны”, гімн “Сьвятло лагоднае” ды, канешне, “Акафіст да Багародзіцы”.

У манастыры мы праводзім розныя рэкалекцыі, духоўныя практыкаваньні ды семінары для тых, хто хоча пазнаць Хрыста і шукае жывога кантакту з Ім. У нашых праграмах вельмі часта ўдзельнічае моладзь. У кантэксьце літургічнай малітвы дапамагаем іншым паглыбіць разуменьне Слова Божага, “быць выканаўцамі” гэтага “Слова жыцьця” ды адкрываць сваё пакліканьне ў сьвеце і ў Царкве.

Я сама імкнуся перадаць іншым тое, што калісьці атрымала ад Бога, дзякуючы пасярэдніцтву сьвятароў, якія праводзілі нашыя трохдзённыя рэкалекцыі ў манастыры ў Чанстахове.

* * *

Ад вернікаў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы ў Бельгіі, якія нас наведвалі, я атрымала прыгожы “Царкоўны каляндар 2008”. З яго я даведалася, што тытул душпастырскіх праграмаў у Беларусі ў 2008 годзе гучыць “Слова Божае – крыніца надзеі”. Усім чытачам старонак “РАЗАМ”, асабліва беларускай моладзі, хачу пажадаць, каб Божае Слова, якое будзеце чытаць кожны дзень на роднай мове, сапраўды сталася для вас “Крыніцай надзеі”.
Барбара

**г.Фішарман, Бельгія**
www.leverbedevie.net

**На фота:** Супольнасьць “Le Verbe de Vie” – “Слова жыцьця” з манастыру Фішарман, што каля Ватэрлоа ў Бельгіі.